PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 13 (2028) ГОД XL БЕЛАСТОК 26 САКАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Ганна Кандрацюк*

## Падарожжа па Дуброўшчыне



*Царква ў Новым Двары.*

Дуброўшчыну журналісты наведваюць рэдка. Мы пачалі ад гэтай яе часткі, што зараз у Сувальскім ваяводстве. З Юркам Ляшчынскім найперш завіталі мы *ў Ліпск* — невялікі гарадок, разбудаваны ў часы народнай улады. Там найбольш цікавіў нас калектыў, які пад назвай „Polski Zespół Ludowy" нядаўна выступаў на агл ядзе нацыянальных меншасцяў Сувальшчыны і спяваў беларускія песні. Спакушала нас таксама даведацца, што скрываецца за пышнай шыльдай „кінатэатр" або „музей". Аднак, нягледзячы на рабочы дзень, усе дзверы былі закрыты. Як нам падказала адзіная прысутная працаўніца, „сустрэчы такія трэба найперш ладзіць па тэлефоне". Сказанае пасведчыла картка з такім жа самым тэкстам на дзвярах музея. Каб не парушыць спакойнае і планавае жыццё ў гэтай мясціне, падаліся мы ў напрамку польска-беларускай мяжы.

Ля самай граніцы за Хварасцянамі зусім спакойна. Мясцовыя жыхары капалі жвір у прыгранічным кар'еры, бегалі брахлівыя сабакі, а нейкі гаспадар ужо пасвіў кароў. Па другі бок, на ўзгорку сярод лясоў красаваўся стройны калгас і быццам запрашаў усіх да сябе. Але пераход у Хварасцянах закрыты, а нам трэба было збіраць журналісцкі матэрыял і таму з'явіліся мы

### ў Новым Дварах.

Сярод жыхароў сенсацыю выклікаў надпіс „Polskie Radio Białystok". Згледзеўшы нас, чужынцаў, мужчыны між сабой шапталіся, хтось нават гнеўна патрос кулаком. „Zaraz ich stąd...", — пачулася ў кампаніі. А калі дарогу пераступіў нам сабарно з басістым брэхам, ніхто не бег нам на дапамогу. Як растлумачылі мне пазней жыхары Дуброўшчыны, у Новым Дворы прыезджых не любяць. Нават жанчыны і „Polskie Radio" для іх звычайная навалач.

Таму доўга мы не гасцявалі ў гэтай мясціне. У вочы кінуліся толькі паўпустыя аўтобусы, якія давозілі школьную моладзь, кавалеры ля магазінаў, сабакі, хмары крумкачоў, стройны касцёл, зусім маленькая Бебжа (Бобра) і дзе-нідзе забітыя вокны.

— Мясціна велічнёй як Орля і ніводнага рэстарана, — здзіўляўся мой сябра. Затое налічылі мы аж чатыры крамы, з нянадта багатым выбарам напіткаў. Тут, як у Ліпску, галоўная вуліца называецца „Grodzieńska".

Не абышлі мы праваслаўнай плябаніі. Ад бацюшкі даведаліся пра парафію, прыхаджан і царкву. Айцец Юзаф Сяткевіч родам з Драгічына. У Новым Дворы ўжо 13 гадоў.

Праваслаўныя ў гміне складаюць усяго 15 працэнтаў насельніцтва. Нягледзячы на рэлігійную прыналежнасць усе старэйшыя жыхары карыстаюцца беларускай мовай.

— Ці ў вас гавораць па-беларуску? — спыталася я ў аднаго каталіка.

— Не, у нас па-просту, бо ў Гародні, то ведаеце, гавораць інакш, як у нас, — пачулася ў адказ.

— Жыццё ў нас спакойнае, мірнае, — паінфармаваў святар.

Аглянулі мы таксама парафіяльную хроніку, дзе найбольш відавочны працэс вымірання і асіміляцыі. Па вайне было тут амаль дзве тысячы прыхаджан. Многія выехалі ў БССР, гарады, асіміляваліся. Зараз на адны роды выпадае аж 10 пахаванняў.

— А тут, у 1992 г. запісана аж 14 хрэсьбін?

— У гэтым годзе якраз мы гасцявалі дзяцей з „чарнобыльскай зоны" і многія ў нас ахрысціліся, — паясніў святар.

— У 1955 годзе наша царква была разбурана злымі людзьмі. Сёлета мы святкавалі саракагоддзе новага храма, — расказваў бацюшка. — У новай царкве ёсць асаблівая каштоўнасць. Тут знаходзяцца царскія вароты з неіснуючай ужо царквы і прыхода ў Ліпску.

Бацюшка налічвае ўсяго 495 прыхаджан: з Новага Двара (толькі сем сем'яў), Сынкоўцаў, Хільмонаў, Сувальшчыны. 47 дзетак ходзіць на праваслаўную рэлігію. Інакш выглядае прысутнасць у царкве. У багаслужбах удзельнічаюць пераважна старэйшыя жанчыны.

*Працяг на стар.5*



*Айцец Юзаф Сяткевіч.*



*Ганна Гічан з вёскі Сынкоўцы з сынам Валянцінам.*

*Мікола Ваўранюк*

## ДЗЕ БЫЦЬ КРЫВОЙ

**У нядзелю 5 сакавіка ў Крывой прайшоў рэферэндум. 128 чалавек выказаліся за тым, каб іхняя вёска аддзялілася ад Арлянскай гміны і далучылася да гміны Бельск-Падляшскі. У галасаванні — працягвалася яно ўсяго 4 гадзіны, ад восьмай раніцы, да поўдня — прыняло ўдзел больш за 60% дарослых жыхароў Крывой. Калі ўлічыць, што толькі пяць асоб не захацела мяняць гмінную прыналежнасць (і яшчэ адзін голас быў няважны), дык атрымліваецца дзіву годная аднамыснасць.**

* * *

— Нам ужо так тая Орля надаела, што страх, — кажа солтыс Крывой **Іван Якімюк**. — Мы фармальна то як з каляіны выкінутыя, ніхто намі там у Орлі не цікавіцца, войт хіба ўсяго адзін раз у нас быў, не больш. То бельскі ўжо тры разы прыязджаў, раз на сход і два разы так заехаў, папытацца, што чуваць. Нас і адлучаць добра, па шашы Гайнаўка—Бельск узяў адрэзаў і ўсё. На шашы канчаецца якраз нашае поле. Усе суседнія вёскі: Локніца, Мякішы, Пасынкі, Агародникі, Галады належаць да Бельска, толькі мы — да Орлі.

### ДАРОГІ І МЕДЫЦЫНА

— Зараз пасля вайны наша гміна была ў Пасынках, — кажа радная ад Крывой у Гміннай радзе **Марыя Уткін**, — затым у Шчытах, потым у Галадах і нарэшце мы трапілі ў Орлю. Думаю, што тадышні солтыс так вырашыў, бо людзі тады пехатою хадзілі, а ў Орлю бліжэй, чымсьці ў Бельск.

Цяпер дарогі сталі інакш вымяраць. Што з таго, што да цэнтра Бельска 12 кіламетраў, а ў Орлю толькі 7, калі з тых сямі два — між Шчытамі і чыгункай Бельск—Гайнаўка — дзіравая гравійка, на якой толькі машыны разбіваюцца. З Бельска лепшае аўтобуснае спалучэнне. І, калі з хваробай, дык усе дактары на месцы, у аптэках усе патрэбныя лякарствы. А так, едзь у Орлю па скіраванне да спецыяліста, або потым, усё-роўна, з рэцэптам трэба дабірацца ў Бельск, бо ў арлянскай аптэцы адпаведнага лякарства не ака-

*Працяг на стар. 4*

**З нагоды 70-годдзя паэта ВІКТАРА ШВЕДА сардэчна віншуем Юбіляра з выдатнай датай і зычым яму далейшых творчых поспехаў.**

**Ян Чыквін,** *старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа"*
**Ян Леаньчук,** *старшыня Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку*

**ПРАПАНОВА ФІРМЫ "БЯЛЬ-ЭКСПА" ДЛЯ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ З БЕЛАРУСІ — СТАР. 10**

## Наша пошта

Pragnę na łamach Waszego Tygodnika poruszyć sprawę dotyczącą Festiwalu Piosenki Bałoruskiej. Zwykle zaraz po imprezie mówi się i pisze, że było ładnie, wesoło itp. Nie znalazł się natomiast dotychczas nikt, kto poruszyłby sprawę rozdziału nagród.

Na całym świecie jest przyjęte, że nagrody przyznawane są za zajęcie miejsca w danym konkursie. Białoruski Festiwal przyjął widocznie inną zasadę. Tutaj nagrody rozdawane są zdaje się tylko dla pewnych uprzywilejowanych osób. Zainteresował mnie rozdział nagród, jako że drugi rok z rzędu moja córka brała udział w tym konkursie. Otóż za zajęcie I miejsca duet "Dubec - Kowalski" otrzymał nagrodę w postaci telewizora kolorowego "Sony" i 5 mln. starych złotych, duet "Arpa" za to samo miejsce otrzy-mał... po książce kucharskiej. Żeby było śmieszniej, podczas Wielkiej Gali, 26 lu-tego 1995 r., tenże duet "Dubec - Ko-walski" otrzymuje puchary i inne nagrody, natomiast duetowi "Arpa" nie starczyło bzdurnego dyplomu. Przypomnieć należy, że cały czas mowa tu o zajętym równorzędnym I miejscu.

"Nie ma gali bez Ali" - czytam w "Gazecie Wyborczej". Nie ma obaw, Ala będzie. Ale czy będzie w przyszłości gala, jeżeli w taki sposób będą traktowani młodzi uczestnicy festiwalu?

Podobnie rozdzielono nagrody w roku ubiegłym. Z tego też powodu część młodych uczestników zrezygnowała z udziału w tym konkursie (biorę pod uwagę tylko I miejsca). Czy ten ktoś, kto dzieli te nagrody, nie obawia się, że Ala nie będzie miała z kim stanąć do rywalizacji? Chór z Dasz, "Orzeszki" z Orzeszkowa to inna kategoria. A może o to właśnie chodzi. Może powinna komisja wyeliminować z tego konkursu bielską "Małankę", "Wasiloczki" i wówczas wszystkie nagrody zostaną u siebie, dla "swoich". Po raz drugi przekonałam się, że na tym Festiwalu rozdziałem nagród rządzi mafia. W tym konkursie moja córka udziału więcej nie weźmie. Jednakże wszystkim młodym, którzy wierzą w sprawiedliwość po białorusku, polecam udział w Festiwalu Piosenki Białoruskiej. Tam jest "specjalna komisja od nagród", która sprowadza na "właściwy grunt". Po takim "prysznicu" wstyd będzie się przyznać, że się jest Białorusinem, a na wspomnienie o udziale w konkursie Białoruskiej Piosenki można dostać apopleksji.

Wierzę, że znajdzie się ktoś odważny w Waszej Redakcji i przedstawi czytelnikom tę inną stronę Festiwalu. Tym bardziej, że na ten temat się mówi, tylko ciągle, nie rozumiem dlaczego, po cichu. Tu trzeba krzyczeć!

**Zofia Michalczuk**
Bielsk Podlaski

* * *

**Шаноўны Яўген Мірановіч, паважаныя сябры рэдкалегіі „Ніва"!**

Атрымліваю „Ніву" і чытаю яе з вялікім захапленнем і цікавасцю. Мова — прыгожая беларуская, змест — актуальны і глыбокі ў многіх артыкулах.

Добра, што для дзетак даеце вельмі цікавую бачыну ў „Ніве" — „Зорку". Асабліва хачу адзначыць таленавітыя вершы Алы Канапелькі: „Не хачу, не буду", „Лісток" і „Хітры зайчык". „Хітры зайчык" — гэта ж шэдэўр!

Артыкулы Яўгена Мірановіча глыбокага зместу і шырокай эрудыцыі. З вялікім задавальненнем прачытаў я артыкул Сяргея Чыгрына пра Уладыслава Казлоўскага. З Ул. Казлоўскім мяне пазнаёміў Фабіян Іванавіч Акінчыц у Менску, калі ён быў рэдактарам „Беларускай газеты". З ім мы мелі дыскусіі аб мове газеты і на іншыя тэмы таго часу — нямецкай акупацыі Беларусі.

Прачытаў я таксама „Іконы" Алеся Барскага. Мова — „гаворка" простых яго бацькоў і старое жанчыны — нашых палешукоў, маюць многа глыбокай удумлівасці і народнай філасофіі.

„Ніва", на маю думку, будзе задавальняць чытача дарослага, юнака і дзетак. Вялікае дзякуй за дасыланыя мне карэспандэнцыі. Атрымліваю „Ніву"ў Аўстраліі на 8 дзень з дня адпраўкі з Польшчы.

Жадаю вам плённай працы і ўсяго найлепшага. Прыміце маё шанаванне.

Жыве Беларусь!

**Сымон Шаўцоў,**
Аўстралія

* * *

**Дарагія Суродзічы!**

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас з знамянальнаю датаю — 77-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Апошнімі часамі сілы, варожыя адраджэньню беларускай дзяржаўнасьці, намагаюцца стварыць для нашага народу ўмовы роспачы, выклікаць у людзей ня толькі пачуцьцё абыякавасьці, але й нават непрыхільнасьці да самой ідэі беларускае незалежнасьці. На вялікі жаль, гэтыя сілы знаходзяць ня толькі падтрымку сярод кіраўнікоў дзяржаўных структураў Беларусі, але гэтыя кіраўнікі часта робяцца самі зачыншчыкамі антынацыянальных, разбуральных працэсаў на нашай Бацькаўшчыне. Таму барацьба Беларусі за сваю незалежнасьць заходзіць, хаця й паволі, у крытычны стан.

Адчуваючы вялікі непакой за будучыню Беларусі, як незалежнае дзяржавы, хочацца, аднак, верыць, што выбары ў гэтак званы Вярхоўны Савет Беларусі, прызначаныя на 14-га травеня, дадуць перавагу прадстаўнікам дэмакратычнага, адраджэнскага руху, якія здоляюць спыніць антынародныя, дэструктыўныя працэсы, што адбываюцца на нашай Бацькаўшчыне.

Няхай Векапомны Акт 25-га Сакавіка згуртуе ўсіх беларусаў, як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі, на новую барацьбу за адраджэньне беларускае дзяржаўнасьці! Няхай паходня, запаленая 25-га сакавіка 1918 году, зырка гарыць, асьвятляючы шлях да здабыцьця поўнае незалежнасьці Беларусі!

Няхай жыве вольная, дэмакратычная Беларусь!

**Расьціслаў Завістовіч**
Старшыня
**Міхась Сенька**
Сакратар

# У чыіх руках улада ў Гайнаўцы

Перад мінулагоднімі самаўрадавымі выбарамі ў Гайнаўцы кааліцыю завязалі: Беларускі выбарчы камітэт і левыя палітычныя сілы (пісаў я пра гэта ў „Ніве" ад 12.06.1994 г.). Калі лічыць колькасна, гэтая кааліцыя ў выбарах перамагла. Аднак пасля не стварыўся ў Гарадской радзе адзін палітычны блок з людзей, якія ішлі з кааліцыйнага спіска.

— Першыя непаразуменні ўзніклі ўжо пры састаўленні спіска, — кажа старшыня Беларускага выбарчага камітэта **Мікалай Бушко** (сабраў найбольш галасоў — 176 — ва ўсёй Гайнаўцы). — У дамове было так, што кожны бок прадстаўляе сваіх кандыдатаў і тым самым бярэ за іх поўную адказнасць. А кааліцыянты ўзяліся ацэньваць нашых людзей. Не хацелі пагадзіцца, напрыклад, на Міхася Байко, ну але мы яго адстаялі. А потым нашы саюзнікі ўзяліся дамаўляцца з г.зв. „незалежнымі" кандыдатамі. Вядома, што ў Гайнаўцы за шырмай „незалежнасці" на выбары ішлі людзі звязаныя з папярэдняй салідарніцкай уладай. І ў эфекце ў Гарадской управе знайшлося месца для салідарніка, а не знайшлося яго для прадстаўніка Беларускага выбарчага камітэта. Апошні раз у кааліцыі сустрэліся мы перад выбарам бурмістра і старшыні Рады. Дамоўленасці не атрымалася і такім чынам мы фактычна апынуліся па-за структурамі ўлады ў горадзе. Праўда, старшынёй Рады стаў Якуб Астапчук, які на выбары ішоў з нашага камітэта, але БВК не вылучаў яго на гэту пасаду і, значыцца, не прадстаўляе ён пазіцыі Беларускага выбарчага камітэта.

Нядаўна Беларускі выбарчы камітэт звярнуўся да кааліцыйнага саюзніка з заявай, у якой лічыць няважнай кааліцыйную дамову, падпісаную 20.04.1994 года. На думку БВК, левыя сарвалі восьмы і дзевяты параграфы гэтай дамовы, у якіх гаворыцца пра тое, што: кааліцыя пасля выбараў створыць супольны клуб у Радзе і паставіць супольных кандыдатаў на старшыню Рады, старшынь камісій Рады, членаў Гарадской управы, уключна з бурмістрам.

— Нічога такога не адбылося, — кажа Мікалай Бушко, — а значыць мы не можам дазволіць, каб грамадскасць горада, нашы выбаршчыкі, атаясамлівалі нас з уладай, калі, практычна, не маем мы да яе ніякага дачынення.

**М. В.**

# KONKURS

**na "Pamiętniki nowego pokolenia chłopów polskich"**

Instytut Gospodarstwa Społecznego Szkoły Głównej Handlowej oraz Zakład Historii Polskiego Ruchu Ludowego Naczelnego Komitetu Wykonawczego Polskiego Stronnictwa Ludowego — pod wysokim protektoratem Adama Struzika Marszałka Senatu Rzeczypospolitej Polskiej — ogłasza w 100 rocznicę powstania polskiego ruchu ludowego Konkurs na "Pamiętniki nowego pokolenia chłopów polskich".

Do udziału zapraszamy przede wszystkim tych, którzy los swój — osobisty lub zawodowy — związali z rolnictwem i szeroko rozumianym interesem wsi polskiej, a także tych, którzy świadomi są swych wiejskich rodowodów i działają na różnych polach dla dobra macierzystego środowiska.

Ogłaszając konkurs nawiązujemy do dziedzictwa przedwojennego Instytutu Gospodarstwa Społecznego, które zaowocowało epokową publikacją przeprowadzonego wówczas Konkursu na "Pamiętniki Chłopów".

Objętości maszynopisów i rękopisów nie ograniczamy, pozostawiając to uznaniu autorów. Prace na Konkurs z podaniem imienia, nazwiska (można je zastrzec do wiadomości jury a pracę opatrzyć godłem) i dokładnego adresu prosimy nadsyłać do 31 grudnia 1995 roku na adres:

Instytut Gospodarstwa Społecznego
Szkoła Główna Handlowa
al. Niepodległości 162
02-554 Warszawa

Dla autorów najciekawszych prac przewidziane są nagrody:

1. dwie równorzędne I nagrody po 50 mln zł każda
2. dwie równorzędne II nagrody po 30 mln zł
3. dwie równorzędne III nagrody po 20 mln
4. 10 wyróżnień po 10 mln zł

Jury Konkursu zastrzega sobie możliwość innego podziału nagród i wyróżnień.

Osoby zainteresowane Konkursem proszone są o pisemne zgłaszanie się pod podanym adresem, gdzie otrzymają obszerne informacje i wyjaśnienia odnośnie zakresu tematycznego.



# Ці будзе ў Беластоку беларускі дзіцячы сад?

У Беластоку ўзнікла цікавая ідэя. Бацькі, якім не абыякавы лёс сваіх дзетак, падумалі пра беларускі дзіцячы садзік. З увагі на тое, што большасць дзяцей карыстаецца польскай мовай „прадшколле" мела б польска-беларускі характар.

Ужо назбіралася звыш трыццаці бацькоў. Арганізатары мяркуюць, што магчыма назбіраць 50 дзетак, каб стварыць аддзельны дзетсад, з уласнымі кадрамі і ўзбагачанай праграмай. У такім „прадшколлі" дзеткі, апрача традыцыйнай праграмы, маглі б пазнаваць свае нацыянальныя і рэлігійныя каштоўнасці. Плануецца таксама арганізаванне дзіцячых артыстычных калектываў, навучанне англійскай мове і камп'ютэрныя гульні.

**Але зараз найважнейшае — гэта заявы бацькоў. Іх можна скласці ў рэдакцыі „Часопіса" (вул. Сураская 1, III паверх). Усе пытанні ў гэтай справе можна кіраваць па тэлефонах: 633-580 і 633-191. Арганізатары просяць як найхутчэй адгукнуцца на прапанову.**

**Ганна Кандрацюк**

*Праця̆г са стар. 1*

залася.

— У нас колькі рэнцістаў ішло галасаваць, — гаворыць пані радная, — і то ўсё пераважна з-за дактароў. А мне калегі з гміннай рады кажуць, нашто ты набунтавала людзей. Ці я каго набунтавала? Людзі самі маюць свой розум, выбралі тое, што лічаць лепшым. А я туды, куды і вёска.

Аб тым, каб перанесціся ў Бельскую гміну крыўляне гавораць так ужо гады два. Але раней быў іншы солтыс, які да гэтага не меў сэрца і справа не кранулася з месца. Людзі кажуць таму, што яго жонка была настаўніцай у Орлі.

У снежні мінулага года выбралі мяне, — кажа спадар Якімюк, — ну а ў студзені зрабілі сход, на якім усе выказаліся за Бельскам. Я лічу сваім абавязкам давесці гэтую справу да канца. Бельскі войт абяцаў падтрымку.

# ДЗЕ БЫЦЬ КРЫВОЙ

### ШКОЛА

У Крывой спадзяюцца, што пасля далучэння да Бельска будзе нанава адчынена ў нас школа. Двухпавярховы мураваны будынак „тысячагодкі”, цяпер апусцелы — нішчэе.

— Прыязджаў да нас дырэктар Пачатковай школы ў Пасынках, Хількевіч, — гаворыць Марыя Уткін, — школа там будзе ліквідавана, то мусіць ён правяраў у кураторыі магчымасць перанесці яе да нас. Дойдуць нашы дзеці і з Локніцы, якія цяпер вучацца ў Орлі. Людзі ж гэту школу будавалі, не так і даўно праводзілі рамонт. Кажуць, лепш хай дзетак сюды давозяць, чымсьці мелі б нейкіх наркаманаў прывезці.

Войт Арлянскае гміны Міхал Іванчук скептычна глядзіць на магчымасць аднаўлення школы ў Крывой.

— Будзе там школа, калі пенсіянеры стануць нараджаць дзяцей, — кажа ён, — або гмінная рада загадае ўсім, незалежна ад веку, без падставовай асветы сесці за парты.

У Пачатковай школе ў Орлі вучыцца 24 дзяцей з Крывой і з Локніцы, пяцёра з іх — у восьмым класе. У нулявым аддзеле няма нікога. Кожнага наступнага года ў школу будзе даходзіць адно дзіця.

У Пачатковай школе ў Пасынках аж 39 вучняў.

— Атрымалі мы з кураторыі пісьмо, каб аднесціся да магчымай ліквідацыі нашай школы з канцом гэтага навучальнага года, — кажа дырэктар **Яўген Хількевіч**. — З адказам можам пачакаць да канца сакавіка, дык я яшчэ ніякіх рашэнняў не прымаў, нават сход бацькоў не арганізоўваў. Для нас тэарэтычна ёсць тры магчымыя выхады: змагацца за ўтрыманне школы, пагадзіцца на ліквідацыю і даваз дзяцей у Храбалы, або перанесці школу ў Крывую. Утрымацца хіба няма шанцаў, бо наш будынак стары, драўляны, трэба было б рамонт рабіць. Мне найбольш адпавядала б Крывая, хаця я разумею, што тых дзетак з кожным годам будзе зменшвацца. Ну, але на некалькі гадоў гэта было б выйсце.

Пытаюся войта гміны Бельск **Юрыя Ігнацюка** адкуль узяць грошы на рамонт школы ў Крывой.

— Няма яшчэ што дзяліць шкурку незабітага мядзведзя, — кажа Ігнацюк, — пакуль невядома, ці Крывая да нас далучыцца. Калі так, то ёсць жа гмінны бюджэт, бюджэтны прэлімінары, у якіх проста заплануецца такі выдатак. Я веру, што школу ў Крывой адкрыць можна.

### ВОДАПРАВОД І ІНШЫЯ ВЫГОДЫ

Крывая была адной з першых вёсак у нас, дзе паклалі водаправод. Мае сураэмоўцы не могуць дакладна ўзгадаць калі, кажуць, будзе яму ўжо пад трыццаць.

— А як два гады таму зрабілася аварыя, — расказвае солтыс, — то з дзесяць дзён ніхто з Орлі не прыехаў рамантаваць. У мяне дабытку многа, напаіць не было як, хоць ты сеўшы плач. Раней таксама здараліся такія выпадкі. У нас водаправод ужо ўстарэлы, разводзіць ваду са студні ў мясцовым калгасе. А Бельская гміна вядзе новы водапровод у Локніцу. То ці цяжка ім будзе працягнуць крыху далей, да нас?

Крыўляне расказваюць, што войт Бельскай гміны абяцаў яшчэ тэлефоны, сцёкавую каналізацыю і газіфікацыю вёскі.

— Ніякіх абяцанняў не было, — кажа **Юры Ігнацюк**. — Усё гэта будзем рабіць у ходзе прадбачаных гмінай інвестыцый.

— Я не ведаю, як у тым кутку Бельскай гміны з водаправодамі ці іншай інфраструктурай, — гаворыць **Міхал Іванчук**, — але напэўна ў іх не лепш як у нас. Няхай крыўляне вераць, што Бельск кінецца спачатку рабіць усё ім. Вы скажыце, якім бацькам лягчэй дбаць пра сям'ю, там дзе пяцёра дзяцей, ці там дзе 15. У нашай гміне 23 вёскі, а ў Бельскай — каля 60-ці.

### ГРОШЫ

Пытаюся Юрыя Ігнацюка, чаму ён так хоча ўзяць Крывую.

— Гэта хіба ясна, — адказвае, — уплывы з падаткаў.

— З падаткамі ёсць так, што кожная вёска іх плаціць, — кажа войт Орлі, — але ж яны потым вяртаюцца ў вёску, бо ёсць жа там канкрэтныя выдаткі. Так, што я не бачу, каб мы што-небудзь страцілі, калі ад нас адыдзе Крывая. А і войт Бельска не папрaвіць свайго бюджэту падаткамі з аднае вёскі.

У Крывой лічаць аднак, што ў параўнанні з тым, якія падаткі яны плацяць, з гміны дастаюць замала.

— У нас толькі калгас дае 200 мільёнаў злотых у год, — кажа **Іван Якімюк**, — а гаспадары можа і два разы столькі. У нас клас зямлі добры, гаспадароў яшчэ многа, бельскі войт сказаў, што напэўна не будзе стратны, калі нас возьме.

З фінансавых прычын не была дакончана дарога між Шчытамі і Орляй.

— Нашто выдаткоўваць грошы з гміннага бюджэту, — кажа **Міхал Іванчук**, — калі можна выцягнуць іх ад ваяводы. Прынамсі палову. Дарога будзе зроблена, як не ў гэтым, то ў наступным годзе.

Колькі ў гмінны бюджэт плаціць Крывая, спадар Іванчук не хоча гаварыць.

— Мы знаходзімся на рынку, дзе ўмовы дыктуе войт Бельска, — смяецца ён, — папытайцеся яго, на колькі ён выцэньвае Крывую.

* * *

Рашэнні ў гэтай справе будуць прымаць абедзве гмінныя рады. Калі б Бельская рада не захацела Крывой, справа на гэтым і закончыцца. Калі толькі Арлянская будзе супраць, справе будзе нададзены ход. Выкажацца ў ёй Ваяводскі самаўрадавы сеймік, а рашэнне будзе прымаць і так урад. Аб зменах межаў тэрытарыяльных адзінак Рада Міністраў вырашае два разы ў год, у палове года і пад канец.

— Мы хочам, каб ужо ў чэрвені разглянулі нашу просьбу, — кажа солтыс Якімюк.

А што, калі адмовяць?

— Будзем усюды пісаць, запросім тэлебачанне. Горш нам як у Орлі не будзе.

**Мікола Ваўранюк**

# РЫЖСКІ ТРАКТАТ

Пасля парумесячных перагавораў 18 сакавіка 1921 г. палякі і бальшавікі падпісалі ў Рызе "мірны трактат", канчаючы польска-савецкую вайну, якога найважнейшым пунктам было акрэсленне мяжы паміж II Рэччу Паспалітай і Савецкай Расіяй. Калі яшчэ размовы вяліся ў Менску, Ленін вуснамі шэфа савецкай дэлегацыі Адольфа Іофэ запрапанаваў палякам, каб узялі сабе цэлую Беларусь , а ўзамен дазволілі ўстанавіць мяжу далей пасунутай на захад на тэрыторыі Украіны. Старшыня польскай дэлегацыі Станіслаў Грабскі аднак адкінуў прапанову Леніна. Кшталт узнікаючай польскай дзяржавы бачыў ён згодна з праграмай найбольшай партыі — Нацыянальнай дэмакратыі, якой сам быў членам. Эндэкі (так называлі палітыкаў Нацыянальнай дэмакратыі) бачылі Польшчу як дзяржаву аднае нацыі. Згодна з гэтай логікай усе меншасці, якія апынуліся б на яе тэрыторыі, павінны быць хутка асіміляваны. Каб асіміляцыя магла пайсці паспяхова, не магло быць надта вялікай колькасці меншасцяў у межах дзяржавы. Хаця начальнік Язэп Пілсудскі меў іншыя погляды ў гэтай справе, на практыцы рэалізавалася эндэцкая канцэпцыя так унутранай, як і замежнай палітыкі дзяржавы. Польская дэлегацыя, якую ўзначальвалі эндэкі, адкінула тады прапановы Леніна і дасягнула ў перагаворах з бальшавікамі пагадненне наконт падзелу Беларусі. Зразумела, што ніхто тады не пытаўся згоды беларусаў, як быццам бы іх увогуле не было на свеце. Суседзі патрактавалі наш народ як французы афрыканскіх тубыльцаў. Беларуская Народная Рэспубліка, створаная актам 25 Сакавіка, асталася зусім незаўважанай ні палякамі, ні бальшавікамі. Урад БНР, які не меў аргументаў у выглядзе сваёй арміі, не лічыўся ў тадышняй палітыцы. Суседзі пры дапамозе мільёнаў узброеных салдат вырашалі тады асноўныя праблемы сваіх дзяржаў.

Падзел Бацькаўшчыны выклікаў розныя рэакцыі сярод беларускіх палітыкаў. Большасць стваральнікаў БНР пакінула край і выехала ў Літву. Там прадаўжаў сваю дзейнасць парламент зняволенай Беларусі — Вярхоўная Рада БНР, якую ўзначальваў Вацлаў Ластоўскі і ўрад, якім кіраваў Пётр Крэчэўскі. Маладая літоўская дзяржава гарантавала беларусам не толькі палітычныя і культурныя свабоды, але дапамагала ў арганізацыі беларускага войска, фінансава падтрымлівала партызанскія групы так на ўсход, як і на захад ад рыжскай мяжы. Частка беларускіх палітыкаў, патрыёты надзею на ўласную дзяржаўнасць, прабавала дагаварыцца з палякамі, спадзеючыся атрымаць ад іх прынамсі аўтаномію. Была сярод іх амаль уся эліта будучай Грамады — Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Антон Луцкевіч, Іван Серада. Шмат былых дзеячаў БНР таксама ўключылася ў стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ў дваццатых гадах мелі яны асаблівую пашану ў бальшавікоў. Зразумела, што іх першых расстралялі, калі змяніліся прынцыпы нацыянальнай палітыкі ў Савецкім Саюзе. У днях 25—30 верасня 1920 г. у чэшскай Празе адбылася Беларуская нацыянальна-палітычная нарада з удзелам прадстаўнікоў шасці партый. Удзельнікі нарады згодна ацанілі сітуацыю на Беларусі як акупацыю яе суседнімі дзяржавамі і заклікалі народ да барацьбы супраць зняволення Бацькаўшчыны. На савецкім баку рыжскай мяжы пасля падаўлення слуцкага паўстання закончылася ўзброеная барацьба за незалежнасць. На польскім баку партызанскія групы дзейнічалі амаль да канца 1925 г. У II Рэчы Паспалітай не было ніводнай беларускай партыі, якая пагаджалася б з палітычнымі паслядоўнасцямі рыжскага трактата. Кожная ў сваей праграме як першы пункт упісвала „аб'яднанне усіх беларускіх земляў”. Па-рознаму аднак бачылася паасобнымі партыямі будучыня аб'яднанай Беларусі. КПЗБ хацела звычайна далучыць Заходнюю Беларусь да Савецкагка Саюза. Дзеячы Беларускага нацыянал-дэмакратычнага аб'яднання, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Беларускага сялянскага саюза, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі будучыню Бацькаўшчыны бачылі толькі ў форме аб'яднанай, незалежнай, суверэннай і дэмакратычнай дзяржавы. Ніхто тады аднак ні ў Польшчы, ні ў Савецкім Саюзе нават не дапускаў думкі, што можа калі-небудзь узнікнуць такая дзяржава коштам заваяваных імі тэрыторыяў. II Рэч Паспалітая ад самога пачатку вызначыла курс на асіміляцыю беларусаў, паліцэйскімі метадамі знішчаючы ўсе палітычныя, культурныя і асветныя структуры. У другой палове трыццатых гадоў арганізацыямі, якія мелі рэальныя ўплывы сярод беларускага грамадства былі Камуністычная партыя Заходняй Беларусі і Рух праваслаўных палякаў. Нават Таварыства беларускай школы ў вачах паліцыі і адміністрацыі пагражала польскай дзяржаве. На тэрыторыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў трыццатых гадах бальшавікі фізічна знішчылі амаль усю беларускую інтэлігенцыю, не астаўся ні адзін вядомы паэт, ні мастак, ні палітык, ні навуковец. Прыкончыўшы эліту, камуністы забраліся за сялян — апору беларускасці. Пачынаўся эксперымент стварэння „савецкага народа”.

Шкада, што цяпер, калі Гісторыя абдаравала беларусаў уласнай дзяржавай, так мала яе грамадзяне цэняць гэтае дабрадзейства лёсу.

**Яўген Міранoвіч**

*АЛЕСЬ ФІЛІПОВІЧ*

## ДА СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Я даглядаў яе, як немаўля,
цалуючы скалечаныя рукі,
прыходзіў золкам і стаяў здаля,
каб, скрыпнуўшы масніцай, не парушыць
цнатлівы сон. Даўно павысмактаў
з вампіра-караля ўсю кроў тутэйшы
люд і на пляцы святкаваў-таптаў
стаптаныя дзіравыя падэшвы.
А ты ўсё спіш, і сном тваім, глухі
да свята, спіць пад белай поўняй...

Адно звіняць у колішняй катоўні
прыкутыя да столі ланцугі.

# Лес

Як прыемна пабываць у лесе цяпер, нават на прадвесні. Я, калі маю вольны ад працы дзень, спяшу ў сваю хваіну недалёка за вёскай. Там ачышчаю лес і гатоўлю сабе дровы. Сухое, крывое і змарнелае ў гушчары голле цераблю і складваю ў кучы. Работа нялёгкая, але ніхто не паганяе і ёсць час на роздумы. Лес — гэта вялікі скарб для людзей, бо з яго маем дрэва на апал у печы, маем з яго каштоўны матэрыял. Толькі з эксплуатацыяй лесу трэба быць вельмі асцярожным, не абкрадаць яго, як гэта цяпер робяць многія людзі і фірмы. Трэба тут біць на трывогу! Лес гэта дом нашых верных сяброў — птушак і іншай, рэдкай ужо, звярыны. Вонкава здаецца, што лес цяпер амаль мёртвы, бо зімна і птушкі трымаюцца бліжэй вёсак і панадворкаў, паколькі там лягчэй дастаць корм. Але рубаючы сухое дрэўца можна пачуць: стук, стук! Гэта вельмі карысная птушка, дзяцел, стукае ў хворае дрэва і дастае адтуль паразітаў. Паразіты, асабліва караед, з'яўляюцца ворагамі лесу. У лесе многа землярыек, падобных на мышэй; убачыць іх амаль немагчыма — яны ворагамі лесу не з'яўляюцца і нельга іх нішчыць. Хай жывуць на здароўе! Мой лес займае плошчу большую чым 5 гектараў. Растуць у ім старыя хвоі, якім больш за 50 гадоў, але ёсць і маладняк ва ўзросце 30—35 гадоў. Гэты лес, разам з бацькамі, садзіў я ў 60-х гадах уласнаручна на слабой глебе, дзе штогод сеялі жыта, бо іншыя культуры не хацелі расці. Апрача таго, садзячы лес, людзі ратаваліся ад падаткаў. Сёння, пасля 35-і гадоў расце тут прыгожы, малады лес. Лес заўсёды не толькі прыгожы, але і нейкі таямнічы і нездарма многа прыгожых кніг напісана аб ім. Зімою відаць у ім і прыгажосць, і нешта таямнічае, чаго немагчыма ў словах выказаць. Чую: крум, крум! Гэта варона ляціць у глыб лесу. Які ў яе план? Невядома. А гнёзды на дрэвах гэта таксама жывое і казачнае. Над краем хваіны праляцеў прыгожы сівы каршун. Ад хвойкі да хвойкі хуценька пералятаюць нейкія маленькія, невядомыя мне птушкі. А пад старой хвояй невялікая яма, а побач нейкая глыбокая нара. Чыё гэта прыстанішча? Мо лісы, мо барсука, а мо куніцы? А калі вецер падуе, тады хвойкі амаль абнімаюцца і здаецца што адна другую перад ветрам бароніць. А шум лесу — гэта з'ява непаўторная; нават калі стаіць цішыня ён шуміць. Гэта асаблівая гутарка і музыка жывога лесу і самой прыроды. І я вельмі люблю такую музыку, бо яна лечыць душу чалавека. А які таямнічы лес уначы! І лечыць ён як найлепшы санаторый ці бальніца, бо тут чыстае і духмянае паветра. А вясною, летам ці ўвосень лес выглядае як у казцы. І лес любіць чысціню і нагляд. А што мы ў гэтым напрамку робім? Часамі паводзім сябе як найгоршыя шкоднікі, аж сорам успамінаць. Найстрашнейшым ворагам лесу з'яўляецца агонь, які чалавек праз сваю дурноту ці проста несвядомасць можа прычыніць — ці то кінуўшы кавалак шкла, ці недакурак папяросы. Лес вытварае неабходны для жыцця кісларод і з'яўляецца фільтрам нашай атмасферы і таму мы ўсе павінны любіць і шанаваць яго.

**Мікалай Панфілюк**

# НАС НЕ БАЧАЦЬ?

У нядзелю, 5 сакавіка 1995 года, адбыўся справаздачна-выбарчы сход Беластоцкага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў.

На 25 членаў СПП прысутнічала 12 і адна кандыдатка. Гэта ўсяго столькі, колькі ледзь-ледзь хапіла, каб быў кворум для прыняцця пастаноў і перавыбараў улад.

У дыскусіі гаварылася і аб тым, што нас не бачаць мясцовыя ўлады. На ўрачыстасць уручэння ўзнагароды імя Веслава Казанэцкага не запрасілі нат старшыню аддзела Януша Нічыпаровіча, не гаворачы ўжо пра іншых членаў. Гэта сорам тым, хто арганізуе нейкія культурныя мерапрыемствы ў Беластоку і крыўдна пісьменнікам, якіх улады не прыкмячаюць і прыкідваюцца, што аб іх не ведаюць.

Але каб хтосьці кагосьці ці штосьці бачыў, трэба заяўляць аб сабе не толькі сваёй творчасцю, але і актыўнасцю. Чаму б, напрыклад, рыхтуючы сход не запрасіць на яго кагосьці з Аддзела культуры Ваяводскай управы, ці прэзідэнта горада, каб паслухалі, якімі праблемамі жыве беластоцкае асяроддзе творцаў. Тады можна было б перадаць свае прапановы і пастановы. Калі не запрашаецца ўлад, тады і яны не хочуць падтрымоўваць з намі сувязі. Улады ведаюць, што кантакты з пісьменнікамі пагражаюць выдаткамі для ваяводскай ці гарадской управы.

Калі праўленне Аддзела СПП не будзе актыўна ціснуць на кампетэнтныя органы, то яны не будуць бачыць нават такіх славутасцей як Крыстына Канэцка, Ян Чыквін ці Ян Леанчук — паэты, або Мікалай Гайдук, Сакрат Яновіч ці Януш Нічыпаровіч — празаікі. Зрэшты, даволі быць аж такімі сціплымі, каб працаваць без водгуку і каб не было на сходзе нікога з беластоцкай прэсы ці радыё. Не ведаю, ці грамадскасць Беластока (хаця б) і Беласточчыны ведае, што старшынёй Аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў стаў Ян Леанчук, старшынёй Рэвізійнай камісіі Мечыслаў Чайкоўскі, а старшынёй Ганаровага суда — Уладзіслаў Сэрчык (выбраны паўторна).

Новае праўленне абяцала (Мікалай Самойлік Мікалаю Гайдуку), што пастараецца арганізаваць нейкі свой часопіс, аб чым гаварылася на сходзе. Мо тады ўлады нас заўважаць.

**Васіль Петручук**

# Навучанне ромаў у Ольштыне

1 сакавіка г.г. адкрыты клас навучання ромаў у Пачатковай школе н-р 7 у Ольштыне. Дырэктар школы хоча хадайнічаць у Гарадскім асяродку грамадскай дапамогі за матэрыяльнай падтрымкай. Для дзяцей трэба здабыць кнігі, сшыткі, школьныя прылады, а таксама забяспечыць навучэнцаў абедамі ў школьнай сталовай. У Ольштыне жыве каля 300 ромскіх сем'яў, а ў ваяводстве — каля 800. У першы клас школы з гэтых сем'яў прыйшло 25 дзяцей: найстарэйшы вучань мае 11 гадоў і ніколі дагэтуль у школу не хадзіў, наймалодшаму — 8 гадоў. Большасць з іх не ўмее ні чытаць, ні пісаць; ніводнае не вучылася ў нулявым класе. Праграма, паводле якой будуць вучыцца дзеці, апрацавана Міністэрствам нацыянальнай адукацыі: карыстаюцца ужо ёю вучні падобных класаў у Сувалках і Новым Сончы. Цыганскіх дзяцей вучыць будзе настаўнік з многагадовай практыкай, а памагаць яму будзе асоба з асяроддзя ромаў. Поспех вучобы ў многім будзе залежаць ад стаўлення да яе бацькоў: ці будуць яны сістэматычна пасылаць сваіх дзяцей у школу.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Рэлігія ў школе

У 1990 годзе Міністэрства нацыянальнай адукацыі Польшчы ўвяло навучанне рэлігіі ў школах. Без лішніх кансультацый, загадам зверху. Напачатку былі слабыя пратэсты супраць такіх метадаў, сёй-той дыскутаваў пра мэтазгоднасць такога рашэння, але з цягам часу ўсё абціхла. Рэлігія ў школе прыжылася.

У мінулым годзе ўспыхнула спрэчка між Каталіцкім касцёлам і асветнымі ўладамі наконт таго, хто павінен аплачваць настаўнікаў рэлігіі. Спрэчка яшчэ не вырашана.

А што думаюць пра ўрокі рэлігіі найбольш зацікаўленыя — вучні? „Kwartalnik Pedagogiczny" (н-р 3 за 1993 год) змяшчае вынікі апытання вучняў сярэдніх школ Любліна, якое праводзілі студэнты педагогікі Універсітэта Мар'і Кюры-Складоўскай, пад кірункам д-р Яніны Яноўскай. Вось некаторыя вынікі апытання:

— 35,1% вучняў хоча, каб рэлігія засталася ў школах, 61,1% выказалася за яе вывядзенне са школы, а 2,7 % хацела б пашырыць колькасць урокаў;

— 14,3% лічаць слушным рашэнне аб увядзенні рэлігіі ў школы, 68,2% лічаць яго непатрэбным;

— 70% лічаць, што гэта доказ дамінацыі Касцёла, 20% лічаць, што не, а 9% не мае свайго меркавання;

— 5,1% прызнаецца, што ўвядзенне рэлігіі ў школы прыбліжыла іх да рэлігіі, 41,2% кажа, што рэзультат быў адваротны, а 53,4% не змяніла сваіх адносін да рэлігіі.

Вучні гаварылі, што рэлігія ў школе стала звычайным урокам, а яны спадзяваліся чагосьці незвычайнага. У апытанні ўдзельнічалі толькі тыя, хто вывучае рэлігію.

**М.В.**

# Ці мае рацыю Ян Чыквін?

У нядзелю, 26 лютага г.г., я слухала беларускую радыёперадачу і штосьці мяне здзівіла. Менавіта Ян Чыквін у сваёй гутарцы сказаў, што ў „Ніве" ў апошні час друкуецца ўсё, што толькі трапляе ў рэдакцыю. У асноўным датычыць гэта „так званых вершаў", а гэтыя творы — толькі ігра слоў і абніжаюць яны вартасць паэзіі. Паводле праф. Чыквіна, польскамоўныя часопісы з асцярожнасцю пускаюць у друк такія „вершы".

Я думаю, што хаця спадар Чыквін — вялікі паэт і знаток беларускай літаратуры, не ва ўсім мае рацыю.

У „Ніве" не ўсё некрытычна ідзе ў друк. Меней удалыя вершы друкуюцца ў „Парнасіку" — чытацкай паласе ці „на негарантаваных паях". А ў польскамоўным друку трапляюцца вершы розныя, не ўсе на высокім мастацкім узроўні.

Тры гады таму я сустрэла жанчыну з Саюза некнвенцыянальных паэтаў. Два разы збіраліся тыя паэты на „паэтычныя бяседы", выбіралі і ўзнагароджвалі найлепшых, друкавалі зборнікі. Але той паэтцы ніколі не далі ўзнагароды за яе рыфмаваныя вершы. Значыць, легальна існаваў (невядома, ці і сёння ён ёсць) саюз паэтаў „другога сорту".

Я думала, што ўсё тое, што друкуецца ў „Ніве" не абніжае вартасць беларускай паэзіі і вартасць тыднёвіка. А шмат беларусаў не чытаюць „Нівы" таму, што родную мову лічаць чымсьці менш каштоўным, горшым ад польскай ці іншай, і што ў такой мове нельга нічога высокага выказаць!

**Аўрора**

# Падарожжа па Дуброўшчыне

*Працяг са стар. 1*

У прыходзе вельмі ахвярныя людзі. Спадарства Вольга і Уладзімір Каленікі аж з Канады дасылалі ахвяраванні на царкву.

Карыстаючыся нагодай, наведалі мы таксама праваслаўныя могілкі. Захаваліся там нават крыжы з уніяцкіх часоў. На крыжах віднеюць прозвішчы: Борыс, Суліма, Шчэрба, Юргель, Гаўрылік, Усціновіч.

### У Сынкоўцах,

што 5 км ад Новага Двара, дарога канчаецца за вёскай.

— Дзе тут Гічаны жывуць? — распытваў Юрка ў хлопца, які якраз „упраўляўся".

— У нас палова вёскі гэта Гічаны, — сказаў і пайшоў у свой бок.

Але хапіла б запытаць пра таго, што чытае „Ніву" і нас неадкладна накіравалі б на месца.

Спадарства Анна, Анатоль і Валянцін Гічаны — пастаянныя чытачы „Нівы". Пра гэта ведаюць ці не ўсе, нават у Новым Двары.

— Гэтая газета ў нас ад першага нумара ідзе. Раней наш дзедка ўсё „Ніву" чыталі, а і мы разам прывучыліся, — паясніла цётка Ганна.

Сямейныя традыцыі перайшлі таксама на сына Валіка, які нягледзячы на адсутнасць беларускай мовы ў школе, чытае „Ніву". На жаль, гаспадара не было ў хаце, якраз паехаў у лес за дрвамі.

— Не раз за „Ніву" мы сварыліся і з лістаноцай, і з начальнікам пошты. Цяпер калі і сам пісьманосец не дойдзе, то перадаць некаму даручыць газету. Бо нам у „Ніве" ўсё цікава. Толькі атрымаем свежы нумар, а ўжо суседзі пытаюцца: то што там нашыя напісалі?

Цётка Ганна найбольш любіць Сэрцайка:

— Як пачну чытаць, то адарвацца не магу, — прызналася гаспадыня.

У спадарства Гічанаў 13 гектараў зямлі, з лесам. На гаспадарцы астаўся сын — кавалер.

— У нас што хата то кавалер; хлопцы па тэхнікумах і „завадоўках" павярталіся дахаты. Адно дзяўчат не хапае. На ўсю вёску, як напаказ, адна-аднюсенька. Ужо нават хлопцы ў Беларусь за дзеўкамі ездзілі. Ёсць там паненкі, праўда, але на вёску не пойдуць. „Прадай гаспадарку, прадай маёмасць і ў горад", — ставілі ўмовы дзяўчаты з калгаса. І так непатрэбныя нікому кавалеры хаця імяніны ў сваёй святліцы святкуюць.

— Ці выпіваюць у вас пры такіх нагодах?

— Каб не пілі, то рассохліся б, — адрэзаў адзін кавалер.

— Я лепш вам пра сваю ікону раскажу, — прапанавала гаспадыня. — У 1959 годзе я і брат у адну нядзелю мелі вянчацца. Два дні да вяселля маланка хату спаліла. Вынеслі адтуль адно ікону (якая зараз на ганаровым месцы) і шлюбную сукенку. Страшна было думаць пра будучыню, увесь пасаг згарэў. Але, дзякуючы гэтай ацалелай цудам іконе, неяк абжыліся.

У хаце спадарства Гічаной пачаставалі нас арыгінальным вясковым пірагом і такім жа варэннем. Мне быццам успомніўся смак незабыўнага дзяцінства.

У Сынкоўцах 42 дамы. Людзі займаюцца тут традыцыйнай гаспадаркай. Самай вялікай праблемай (апрача дзяўчат) з'яўляюцца дарогі. У вёску нялёгка даехаць, размоклая жвіровая дарога не заахвочвае наведваць гэтую мясціну. У вёску толькі раніцай прыязджае школьны аўтобус.

Наш прыезд прыцягнуў увагу і іншых жыхароў гэтай вёскі.

— Ці ў вас толькі па-беларуску размаўляюць? — пацікавіўся Юрка.

— Няма тут перад кім гаварыць па-польску, — пачулася ў грамадзе.

Нам пашчаслівілася нават сустрэцца з адзінай мясцовай дзяўчынай. Івона тут сапраўды „напаказ". Зразумела, што ўсю зваротную дарогу думалі мы адкуль узяць прынамсі дзесяць дзевак на гаспадарку, або хаця б на халасцяцкія імяніны, бо ў Сынкоўцах сапраўды цікавыя хлопцы. І ўсе свядомыя беларусы.

**Ганна Кандрацюк**

Зорка
старонка для дзяцей



*Калектыў "Арпа" з Беластока.* **Фота Сяргея Грынявіцкага**

# Чаму 25 Сакавіка для беларусаў вялікае свята?

25 сакавіка 1918 года наш народ абвясціў сябе вольнай і незалежнай краінай БНР — Беларускай Народнай Рэспублікай.

Як да гэтага дайшло?

Напэўна ведаеце, што Беларусь 200 гадоў знаходзілася пад царскім прыгнётам і лічылася як „западняя" правінцыя Расіі. Але ў народзе, асабліва сярод шляхты і інтэлігенцыі, ніколі не пагасла ідэя вольнай айчыны. Многія з пакалення ў пакаленне расказвалі пра слаўную мінуўшчыну бацькаўшчыны, якая тады называлася Вялікім княствам Літоўскім.

Нягледзячы на праследаванні з царскага боку, лепшыя сыны Беларусі не пакідалі думкі пра вызваленне свайго краю. Ужо ў 1917 годзе, калі ў Расіі пайшлі вялікія змены, і ў Беларусі не драмалі. У гэтым годзе быў скліканы Усебеларускі Кангрэс, які сваімі прадстаўнікамі назначыў Раду і Выканаўчы Камітэт. Гэта былі адзіныя прадстаўнікі інтарэсаў беларускага народа. А ў лютым 1918 года Рада была папоўнена прадстаўнікамі і ператварылася ў парламент — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

25 сакавіка 1918 года ў 3-й Устаўной грамаце Рады БНР Беларусь абвяшчалася вольнай і незалежнай дзяржавай. Устанаўліваўся 8-гадзінны працоўны дзень, лясы, азёры і нетры былі прызнаны ўласнасцю краіны, зямля задарма перадавалася тым, хто на ёй працуе. Абвяшчалася свабода слова, друку, сходаў, забастовак, веравызнання, незачэпнасці асобы і памяшкання. Нацыянальным меншасцям на беларускай зямлі не было гвалту: яны мелі права на самакіраванне.

Гербам БНР была зноў Пагоня (традыцыя па Вялікім княстве Літоўскім), а штандарам — бел-чырвона-белы сцяг.

Незалежнасць Беларусі была законна прызнаная Украінай, Чэхаславакіяй, Аўстрыяй, Фінляндыяй, Польшчай, Турцыяй, Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, Арменіяй і Грузіяй. Большыня краін свету прызнала фактычную незалежнасць Беларусі. БНР пратрывала толькі да 1 студзеня 1919 года. Не змагла маладая дзяржава адапхнуць ад сябе навалы чужынцаў і ў ваенна-рэвалюцыйнай завірусе папала зноў на 72 гады ў залежнасць ад сваіх суседзяў.

Сёння, хаця і існуе Рэспубліка Беларусь, ідэалы 25 Сакавіка дарагія ўсім верным сынам Беларусі.

**Ганна Кандрацюк**

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

### Падняты родны сцяг

Падняты родны сцяг дзяржавы,
Ад даўніх спаўшага вякоў, вякоў,
І з дзён мінулай продкаў славы } 2х
Ажыў, жыве наш край ізноў.

Ажыў і княжы замак гонкі,
Душа і сведка даўніх год, даўніх год,
А з ім і з песняй роднай, звонкай } 2х
І беларускі наш народ.

У баі мы створым дысцыпліну,
Сяброўства цэментам скуём, скуём,
Сваю каханую Радзіму } 2х
Мы вечнай славаю спаём.

Мы зробім усё, каб жыла маці,
Каб не памерла нам на век, на век,
Яднайцесь з намі, нашы брацця, } 2х
Каб беларус быў чалавек.

## КОНКУРС

*З нагоды 25 Сакавіка „Зорка" абвяшчае конкурс.*

*За правільныя адказы на ніжэйпрыведзеныя пытанні вы можаце атрымаць цікавыя ўзнагароды, між іншым наручныя гадзіннікі з Пагоняй.*

1. Які горад быў сталіцай БНР?
2. Хто з суседзяў БНР не прызнаў Беларусь як вольную і незалежную краіну?
3. Які сцяг і герб прыняла БНР?

Адказы кіруйце на адрас „Нівы" з прыпіскай: „Конкурс „Зоркі".

**З-ка**

## Першы стрэл

У гісторыі вельмі рэдка здараецца, каб вядомым было імя чалавека, які першы стрэліў у якой-небудзь вайне. З такім рэдкім здарэннем маем дачыненне ў гісторыі змагання беларусаў за незалежнасць ад бальшавіцкай Расіі.

Пад канец снежня 1917 г. у Менску сабраўся Усебеларускі З'езд, які меў вырашыць лёс Беларусі. Бальшавікі, у чыіх руках быў тады Менск, разагналі гэты З'езд. Не адважыліся ўсё-такі зрабіць тое самае з Вайсковай Цэнтральнай Радай. Гэтая Рада арганізавала беларускіх вайскоўцаў да збройнага змагання за незалежнасць Рады.

Толькі праз месяц, ноччу з 31 студзеня на 1 лютага 1918 г. бальшавікі рашыліся напасці і на Раду. Канвой аўтамабіляў, загружаных чырвонагвардзейцамі і матросамі наблізіўся да будынка Рады. Загасіўшы пражэктары і схаваўшы за вуглом вуліцы свае аўтамабілі, бальшавікі акружылі будынак і занялі ўсе ўваходы і выхады.

Уварваўшыхся ў будынак чэкістаў і матросаў сустрэў намеснік старшыні Белвайскцэнтрады Канстанцін Езавітаў. Запытаў бальшавікоў, чаго ім трэба. Іхні кіраўнік, махаючы рэвальверам, заявіў, што ён мае загад арыштаваць усіх членаў Рады і аднаго з пасыльных хлопчыкаў, 14-гадовага Апанаса.

Прачытаўшы загад на пісьме, К. Езавітаў адказаў бальшавікам, што спаўненне іх жадання арыштаваць „усіх" членаў Рады немагчымае. Па-першае, іх больш ста чалавек (пры гэтых словах бальшавікі палахліва паўзводзілі куркі сваіх рэвальвераў і пачалі азірацца на ўсе дзверы). Па-другое, прадаўжаў Езавітаў, у будынку знаходзіцца толькі дзесятая частка ўсіх членаў. Калі ўсё-такі бальшавікам дзеля выканання загаду трэба кагосьці арыштаваць, хай арыштуюць яго, Езавітава, і сакратара Васіля Захарку, бо яны два адказваюць за ўсю працу Рады.

Кіраўнік бальшавікоў пачаў спрачацца, але гучны стрэл з ружжа ў суседнім пакоі страшэнна перапалохаў яго і матросаў. Адразу згадзіліся яны забраць толькі Езавітава і Захарку. Пасадзілі іх у аўтамабілі, успыхнулі агні пражэктараў і канвой шалёна панёсся па пустых вуліцах Менска ў штаб Чэка.

А хто страляў? Гэта быў 12-гадовы пасыльны хлопчык Кастусь, які спаў са сваім старшым братам Апанасам. Калі матросы прыйшлі па Апанаса і пачалі яго будзіць, прачнуўся і Кастусь. Схапіў са сцяны набітае ружжо, якое ўвечары даручыў яму адзін з дэлегатаў на перахаванне, і ўзяўся бараніць брата.

Куля нікога не закранула, але жарты скончыліся. Калі бальшавікі разганялі Усебеларускі З'езд, завязаўся толькі кулачны бой з прымяненнем лавак і што там было пад рукою, але ніхто не страляў. Кастусь першы схапіўся за зброю.

Праз тры тыдні ўзялі з яго прыклад дарослыя члены Рады. Лейтэнант Езавітаў уцёк з сябрамі з бальшавіцкай няволі, сабраў сваіх людзей і выгнаў бальшавікоў з Менска. Іхняе кіраўніцтва ледзь паспела ўцячы са сваёй сядзібы чорным ходам. Затрымалася ажно ў Смаленску.

Цікава толькі, чаму бальшавікі так заеліся на хлопчыка Апанаса. Быццам бы прадчувалі, што ў пакоі пасыльных хлапчукоў тоіцца іх самы люты вораг.

**Алег Латышонак**

## Вершы Віктара Шведа

### Віхор прыйшоў на двор

Наталька ў прадшколле
З татам сваім ідзе,
А вецер, як ніколі,
І вые і гудзе.

І мерзнуць ручаняты
Вясне наперакор.
— Спяшаймася, мой тата,
Бо гоніць нас віхор.



*Наталька збіраецца ў прадшколле.*
Фота Ады Чачугі

## Фігуры з квадрата

Пры дапамозе трох ліній падзяліце гэты квадрат на тры фігуры так, каб у кожнай з іх знаходзілася адна кропка.



**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

## Скорагаворкі

Чыкі, чыкі, чыканачкі, ехаў зайчык на саначках.

* * *

Пад пятым пяньком Пеця папаў пяткай па апеньках.

* * *

Каб не рыпелі дзверы без дай прычыны, змазаў іх Валера... маргарынам.

**З-ка**

## У Заблудаве спяваюць

Ужо трэці год у Заблудаве, пры Успенскай царкве працуе маладзёжна-дзіцячы калектыў. Калі заспяваў сёлета ў Драгічыне на аглядзе калядных песень, спецыялісты высока ацанілі яго майстэрства. Прынамсі ніводзін з калектываў, якія выступалі там, не спяваў калядак з нотамі ў руках — а калектыў з Заблудава спяваў. Сапраўдны хор!

На Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы маладзёжны парафіяльны хор з Заблудава выступаў ужо два разы. У 1993 годзе заняў там нават першае месца сярод парафіяльных вясковых хораў.

Штогод выступае таксама ў часе Дзён сакральнай музыкі, якія асенняй парой праходзяць у Заблудаве.

Кіруе калектывам рэгент Вераніка Суровец. Як паінфармаваў нас мясцовы настаяцель айцец Мірaслаў Тамашэўскі, царква збірае больш здольных дзяцей і кіруе іх у хор. Рэпетыцыі праводзяцца ў плябаніі — асобна дзеці, асобна моладзь. Перад паездкамі на выступленні рэпетыцыі праводзяцца для ўсіх разам. Бо, трэба вам ведаць, што і выступаюць меншыя дзеці і моладзь найчасцей разам.

Вось і ў Беластоцкай філармоніі нядаўна на вечары калядак выступаў заблудаўскі дзіцячы хор, папоўнены моладдзю.

Бацюшка Міраслаў Тамашэўскі лічыць, што дзеці ў Заблудаве яшчэ не сказалі свайго апошняга слова.

Пэўна, святы Гаўрыіл — апякун усіх дзяцей — спаглядае на іх з неба з усмешкай. Гэта ж яго земляк.

**Ада Чачуга**
**фота аўтара**



## Вясёлы куточак

— Мы ж дамаўляліся, што ты будзеш хутка вяртацца са школы, — пачынае бацька.
— Ну, татачка.
— А што я табе абяцаў, помніш?
— За спазненне будзе лупцоўка.
— І што цяпер?
— Калі я не выканаў абяцанне, тады і ты не мусіш.

* * *

— Маці цябе ў школу дзеля вучобы пасылае, — гаворыць усхваляваная настаўніца Колю, які пастаянна не рыхтуе ўрокаў.
— Мама мяне ў школу пасылае, каб мець спакой у хаце.

* * *

— Як называем чалавека, які ўсё гаворыць, гаворыць і ніхто яго не слухае? — пытаецца паланістка.
— Такога чалавека называем настаўнікам, — падарваўся першы Колік.

**Даслаў**
**Андрэй Гаўрылюк**

## Загадкі

1) Брат брата сячэ — у адну ямку кроў цячэ.
2) Два браты пайшлі на раку купацца, два купаюцца, трэці на беразе валяецца.
3) Ляцелі гусанькі, а ў іх дубовыя косанькі, ды крычалі: „то-то-мы!"
4) Ішлі ўтрох, рассыпалі гарох, разасланлі кажух, палажылі хлеба ўкруг.
5) Ішоў-ішоў ды дзве дарогі знайшоў, падумаў і ў абедзве пайшоў.
6) Два ляжыць, два стаіць, пяты ходзіць, шосты водзіць, сёмы песенькі пяе.
7) Каля вуха завіруха, а ў дзірцы вяселле.
8) Маці бялоха, дачка красноха, сын перабор — выйшаў на двор, нагамі перабірае, да неба даставае.

Адказы: 1) жорны, 2) вёдры і каромысла, 3) цапы пры малацьбе, 4) зоркі, неба, месяц, 5) нагавіцы, 6) ушакі, чалавек, дзверы, завесы, 7) вулеі і пчолы, 8) печ, полымя, дым.

*Падборку зрабіў*
**Ясень**

*Ян Баршчэўскі*

## Ваўкалак

**(3)**

*(Працяг; пачатак у 11 н-ры)*

Выбягаю з лесу ў лог. (Ранак быў ясны і ціхі!) Бачу: котка на траве: шыя і лапкі — белыя, спінка — у паскі, светлыя і цёмна-папяловыя, шустрыя вочкі; скача котка, імкліва ловіць лапкамі матылёў на кветках. Доўга глядзеў з хмызняку на яе вясёлыя падскокі і гульні. Урэшце захацелася схапіць яе, кідаюся... але лёгка, як вецер, адскочыла яна і бяжыць на пагорак. Даганяю, і вось-вось хацеў ужо разарваць — аж яна ператвараецца ў сароку і ляціць над зямлёй. Гонячыся далей, убачыў самотную хаціну. Сарока села на страху і зноў перакінулася ў котку. Бачу: усюды поўна катоў размаітае масці: каты на даху, каты на вокнах, каты на панадворку. Усюды каты.

Зразумеў, што тут жыве чараўніца Аксіня. Доўга стаяў і думаў: ці ісці да яе? Яна мяне не прыме ў воўчым абліччы, трэба з ёю дзе-небудзь на праходцы спаткацца, пакорліва ўпасці да яе ног і прасіць злітавацца над маім лёсам. Схаваўся я ў лаўжы і чакаў той шчаслівай хвіліны.

Сонца схавалася за лясы і горы; узлескі ўжо пакрыў вечаровы змрок; а недалёкае возера, акружанае густою лазою, яшчэ свяцілася. Бачу: усе каты — з хаты, з даху, з падворка бягуць на луг, зрываюць зубамі нейкую траву і ў міг вока ператвараюцца ў дзяўчат, рассыпаюцца між кустоў, спяваюць песні, скачуць; іншыя зрываюць кветкі і ўюць вянкі. Бягу і я на лугавіну. Убачыў тую траву з дробненькімі кветачкамі; як толькі яе сарваў і праглынуў, адразу ж прымаю чалавечае аблічча. З нявыказанай радасцю бягу ў гурт лёгкадумных русалак, скачу з імі, весялюся, зусім забываю пра сваё няшчасце.

Гэтыя гульні і радасць доўжыліся да позняе ночы. Змоўклі ўсе птушкі ў лесе, толькі шэрая сава крычала. Прыляцела, і седзячы на чараўніцынай страсе, свяціла вачыма, і рагатала, і енчыла, нібы немаўля. Тут нечакана зашумеў лес і вада ў возеры пачала плёскаць аб бераг. Русалкі закрычалі: „Поўнач! Поўнач!" — і адразу ўсе перамяніліся ў котак і пабеглі на Аксінін панадворак; адны караскаліся на дах, другія праз вакно хаваліся ў хату. А я — зноў зрабіўшыся ваўком — пабег у лес, лёг пад густой ялінаю і разважаў пра гэтае здарэнне, шкадуючы, што нядоўга пабыў чалавекам; вырашыў застацца тут і хоць на кароткі час забываць пра сваё няшчасце.

Назаўтра прычакаў вечара, і гэтакса ма коткі паператвараліся ў дзяўчат, а да мяне вярнулася чалавечае аблічча. Бавіўся з імі, весела і непрыкметна бег час. Тут адна з кола зачараваных дзяўчат, гледзячы на мяне з нейкай пагардаю, сказала:

— Мне ён не падабаецца.
— Чаму не падабаюся? — пытаюся і падыходжу да яе.
— Таму што бачыла, як ты ператвараешся ў ваўка, а я ваўкоў ненавіджу, бо праз ваўка я няшчасная.
— Як гэта?
— Калі жыла яшчэ з бацькамі, пасвіла гусі ў полі, а воўк схапіў мяне і занёс у лясныя нетры, кінуў там, а сам знік. Блукала я па пушчы, плакала і крычала, не ведаючы, у які бок падацца. Раптам на мой голас прыляцела ў вобліку чорнай птушкі Аксіня, перамянілася ў кабету і, узяўшы мяне за руку, сказала:

*(працяг будзе)*

# Тэатральнае свята ў Беластоку

У днях 20—27 сакавіка праходзіць у Беластоку III Міжнародны тыдзень тэатра. Арганізуе ўсё „уласнымі рукамі" дырэкцыя і акцёры Тэатра імя Аляксандра Вянгеркі. Без спецыяльнага бюро і штаба. Калі раней у тэатры працавала 168 чалавек, дык сёння іх — усяго 83. Тэхнічнай абслугі было 14 чалавек, сёння — 3 асобы.

Нялёгка ім і, калі б не спонсары... Спонсараў я налічыла трыццаць двух, але гэтага і так замала ў адносінах да вялікіх патрэб. Толькі з тэатра Янкі Купалы з Менска прыязджаюць 72 асобы плюс суправаджаючыя. Трэба ўсіх размясціць на начлегі, накарміць, заняцца імі.

Не едуць сюды артысты па ганарары, бо ганарараў ніякіх не будзе. Наладзіць дружбу, паказаць сябе, паглядзець іншых, пазнаёміцца з майстэрствам акцёраў з іншых краін, — усё гэта шмат важнейшае.

Зрэшты, як падкрэсліў 13 сакавіка на прэс-канферэнцыі дырэктар тэатра Анджэй Якімец, такая міжнародная канфрантацыя тэатраў павінна прыцягнуць гледачоў да тэатра. Беласток у гэтай галіне мае чым пахваліцца.

У часе III Міжнароднага тыдня тэатра выступаюць: Тэатр імя Камісаржэўскай з Санкт-Пецярбурга, палітоўску іграе Драматычны тэатр з Панявежы, славацкі тэатр з Банскай-Бістрыцы, Тэатр Эмы Гарт з Нью-Йорка, Міжнародны тэатр пантамімі з Севільі, Тэатр Янкі Купалы з Менска, Камерны тэатр з Каўнаса, Тэатр на Пагулянцы з Вільні (па-руску) з двума спектаклямі. Арганізатараў цікавілі аўтары, якія маюць нешта супольнае з Польшчай. Гледачы атрымліваюць пераклады на польскую мову ў скарачэнні.

Зразумела, што для нас найцікавейшай падзеяй у гэтыя дні з'яўляецца прыезд у Беласток Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з Менска — вядучага беларускага тэатра. Калі дадаць яшчэ, што са спектаклем „Ідылія" выступае ён паводле „Селянкі" Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, дык становіцца ясна, што гэта Падзея з вялікай літары.

У саракавых гадах мінулага стагоддзя была напісана опера „Селянка". Вінцук Дунін-Марцінкевіч напісаў лібрэта, а Станіслаў Манюшка — музыку.


*Сцэна з п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча "Ідылія".*

9 лютага 1852 года опера была пастаўлена ў Менску ў памяшканні клуба Поляка (там знаходзіўся тагачасны гарадскі тэатр). Выступаў музычна-драматычны гуртэк, створаны самім Дуніным-Марцінкевічам.

Шкада, што захаваўся ўсяго адзін ліст клавіра оперы — арыя камісара. Таму тэатр Янкі Купалы ў сваім спектаклі выкарыстоўвае музыку беларускіх кампазітараў XVIII—XIX ста- годдзяў.

Мо і не быў бы захоплены сёння Францішак Багушэвіч, што на плане — „Селянка" В. Дуніна-Марцінкевіча, які на яго думку, „быццам смеючыся з нашага брата" пісаў. Невычэрпныя, аднак, крыніцы беларускага адраджэння. „Селянка" была першай беларускай операй, пастаўленай у Менску.

Тэатральны спектакль „Ідылія" быў пастаўлены ў Менску ў мінулым годзе і зрабіў вялікі фурор. Рэжысёр Міка-лай Пінігін ажывіў лібрэта Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, якога столькі гадоў ніхто не кранаў, і зрабіў з яго прыгажэйшае відовішча. Яго лейтматыў: ні ў якіх Парыжах, а толькі на роднай зямлі, на Беларусі можна знайсці сапраўднае шчасце.

Калі „Ніву" чытаеце ў чацвер ці пятніцу, дык яшчэ паспееце паглядзець гэты спектакль. Іграюць яго на вялікай сцэне тэатра імя А. Вянгеркі 24 сакавіка а гадзіне 18.15. Раім пабываць на ім абавязкова.

**Ада Чачуга**

# Культура поўнасцю легальная

У Нарве звыш двух гадоў выходзіла мясцовая газета „Навіны з гміны". Агулам, у перыяд ад ліпеня 1992 г. да верасня 1994 г., паказалася 17 яе нумароў. Рэдактарамі выдання былі працаўніцы Нарваўскага асяродка культуры: Ірэна Шастай, Ліля Хіліманюк, Анна Андраюк-Савіцкая ды дзве працаўніцы бібліятэкі — Ала Сяткоўская і Аліцыя Станько. Восенню мінулага года гмінная камісія культуры зачыніла газету „Навіны з гміны". Прычынай спынення яе выхаду была, паводле радных, слабіна выдання.

З ацэнкай такой не надта пагадзіліся аўтары газеты, бо Нарваўскі асяродак культуры звярнуўся ў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку з просьбай ацаніць іхнюю працу. Ацэнка гэтая, „як на ўмовы, якімі распараджаецца выдавец" (сфармуляванне рэцэнзента беластоцкага Асяродка), не аказалася цалкам дрэнай. Той жа рэцэнзент намякнуў яшчэ на патрэбу абучэння рэдактараў нарваўскага выдання на адным з курсаў для журналістаў мясцовай прэсы. Звярнуў таксама ўвагу на ролю мясцовай прэсы ў развіцці дэмакратыі, „але нельга спадзявацца, што не звязана гэта з коштам і абучэннем людзей". Запрашэнне на адзін з такіх курсаў фактычна з'явілася ў Нарваўскі асяродак культуры. На „Семінар для мясцовай прэсы" запрашаў Варшаўскі цэнтр лакальнай дэмакратыі. Чаму запрашэнне прыйшло з Варшавы, а не, напрыклад, з Беластока — гэта высвятліцца за хвіліну. Кошт трохдзённага семінара — 3 мільёны 200 тысяч злотых. Гміна мела фактычна выдаць толькі 900 тысяч. Кіраўнічка асяродка культуры, Ірэна Шастай, не атрымала згоды на ўдзел у ім.

Ірэна Шастай, запытаная пра сваю сітуацыю, сказала, што адчувае сябе вельмі няўпэўнена. Асяродак нібыта мае 77 мільёнаў бюджэту, але яна, як кіраўнічка, не мае ўплыву на гаспадарку гэтай сумай. Не найлепш паўплываў таксама на працу асяродка падзел яго на дзве бюджэтныя ўстановы. З асяродка камісія культуры выдзеліла бібліятэку.

Асяродак культуры ў Нарве стаў вядомы шырэйшым колам грамадскасці дзякуючы, перад усім, інцыдэнту на маладзёжнай дыскатэцы, у час якой функцыянеры паліцыі здорава адлупцавалі двух хлапчукоў (пра інцыдэнт пісалася таксама ў „Ніве"). Падзея тая шмат у чым змяніла аблічча самога асяродка культуры. Змены адбыліся ад страху.

Функцыянеры мясцовага камісарыята паліцыі пасля пабою часта гасцілі ў Нарваўскім асяродку культуры — не з пажадлівасці за культурай аднак, як здавалася б. Намагаліся паўплываць на працаўніц дзеля карысных для сябе паказанняў у судзе, куды падалі на скаргу пабітыя. Усё гэта мела нейкі ўплыў на жыццё асяродка культуры ў Нарве. Працаўніцы пачалі баяцца, што паліцыя абвінаваціць іх у нелегальшчыне культурных мерапрыемстваў. На першай лініі знайшлася відэабібліятэка — паліцыя канфіскавала з яе адну касету, выпісаную ад Ежы Урбана (была яна цалкам легальнай; паліцыя пазней яе вярнула). У такой сітуацыі асяродак культуры зарэгістраваў сваю відэабібліятэку ў... Варшаве. Пазней працаўніцы падумалі пра газету „Навіны з гміны". Яна таксама, у гэтых экстрэмальных умовах, пахла нелегальшчынай. Загаловак быў зарэгістраваны і ахоўваецца судом у Варшаве. Такім чынам, хоць газета фактычна і не выходзіць, у святле закону „Навіны з гміны" надалей існуюць, а на іх адрас прыходзяць, хаця б, запрашэнні на семінары для мясцовай прэсы. Інакш кажучы, няма фармальнай перашкоды для адраджэння газеты ў любы момант.

Нарваўскі асяродак культуры мае яшчэ на складзе сталовую пасуду, якую пазычае на вясельныя ўрачыстасці, якія могуць праходзіць у памяшканні кліента або ў зале асяродка культуры — ёсць адпаведныя ўмовы для такіх нагод. У асяродку культуры абсталяваўся таксама Асяродак сельскіх парад з Гайнаўкі, які час ад часу арганізуе свае прэзентацыі. Легальнасць усіх мерапрыемстваў не навадзіць сумненняў.

**А. Максімюк**

# Радзіма — Родзіна

### Частка III

Прыводжу далейшы фрагмент выказванняў жыхара Бандароў Піліпа Карэткі аб Першым агульнабеларускім з'ездзе ў 1917 годзе, у якіх няма разважанняў аб радзіме:

„То значыцца, брацішку, было так. Калі ўжэ дзелегаты з'ехаліся з усяе Беларусі, каб радзіці аб судзьбе Беларусі, то нас сабраў начальнік мінскага гарнізона, а быў гэто палкоўнік, толькі фаміліі чорта не помню, і сказаў: „Вот в этом театре собрались верные сыновья белорусского народа, чтобы определить судьбу своей революционной родины. Возможно, что контрреволюционные, националистические элементы схотят к ним прорваться, чтобы им помешать в работе. Вот дело заключается в том, чтобы такой элемент отпихнуть словом, а еслі слово не поможет, то тогда употребим приклады, а если и этого будет мало, тогда надо будет пользоваться штыком и даже пулей!"

Ты знаеш, брацішку, напалохаў ён нас такімі словамі. Але, што парадзіш. Салдат ест салдат і мусіт выпаўняць прыказ камандзіра. То мы, значыцца зрабілі пасты кругом таго будынку, у катором збіраліся дзелегаты. Але ты знаеш, ніхто з горада ні прарываўсе, ні нападаў, так што нам ні прышлосе упатрэбляці ні слоў, ні прыкладаў, ні штыкоў, ні куляў. Праўралі толькі дакументы дзелегатаў і ўсё. А трэба сказаці, што гэты дзелегаты то былі вельмі разным народом. Ішлі і панкі ў капелюшах, і вайскоўцы, і, відно, рабочыя. Ішлі таксамо мужыкі з торбачкамі за плячыма. Некаторыя то нават былі ў пастаках. Так, бачыш, моцно пераняліся, відно, гэтаю справаю незалежнае Беларусі.

І ты знаеш, брацішку, што сталасо? Думай ні думай, ні прыдумаеш! Так дзесь хібо на другую ноч после таго, калі ўжэ гэты з'езд пачаўсе, раптам паявіўсе той самы палкоўнік з добраю ротаю новых салдат. Сабраў ён нас кругом сябе і знаеш што заспіваў? Сказаў больш-менш так: „Оказалось, что в этом здании собрались белорусские предатели, враги белорусского народа, националисты. Они хотят вернуть землю помещикам и фабрики буржуям. Стараются поссорить русский рабочий революционный класс с белорусским рабочим революционным классом. Наша задача состоит в том, чтобы этих националистов разогнать на четыре стороны света. Вы оставайтесь на местах, а приведенные мною солдаты будут выгонять с театра этих сволочей. Ваша задача в том, чтобы их хватать за шиворот, давать подзатыльники и гнать прочь. Если понадобится, пускать в ход кулаки, приклады, штыки и пули. Выполнять приказ со всей строгостью!"

Ты знаеш, брацішку, я поўнасцю збаранеў, пачуўшы такое. Стаю сабе і думаю: „Так, тваю маць, ты ж нідаўно гаварыў, што тут сыны народа, а цяпер ужэ яны ні сыны, але ворагі народа?! Ну але, што ты будзеш гаварыці, калі ты толькі салдат радавы і больш нічого. Ну і той палкоўнік папёр у будынок. Там, відно, сапрацівляліся, бо так мінут дваццаць ніхто з будынку ні выходзіў і толькі после пачалі вывалакаці тых цэлых дзелегатоў. Але як яны выглядалі? У аднаго нос разбіты, у другого шышка на лобі. А адзін мужычок то выбег толькі ў адным пастале на назе. Відно, у шарпаніні пастол ему з нагі сарвалі.

І што ты думаеш, брацішку, у канцы з будынку выгналі нашаго ефрэйтара з расквашаным носам. А ён, халера, пастаяў, ачухаўся і зноў у будынак папёр. Але калі ему, відно, прыкладом шышку набілі на лобі, то ён ужо спакойно падышоў да нас і кажэ: „Братцы, гэтые блядзі разагналі ўсё народнае сабранне. Але гэто ніщто. Мы напішэм Леніну і ён іх перастраляе кібені мацеры як сабак".

Ну, мы, значыцца яшчэ цэлу ноч стаялі кругом будынку але ніякіх ні кулакоў, ні прыкладаў, ні штыкоў, ні куляў ні ўпатраблялі, бо пабіты дзелегаты парасходзіліся, хоць кулакамі і махалі, і руґаліся моцно".

**Алесь Барскі**




*БАРЫС РУСКО*

### За гранню

Глыбай застыў боль,
трывога белая, бы палатно.
І ўсё маўчыць,
і маўчаннем — смерць.
А яна не пытае метрыку,
у яе свой нахіл,
і няма адкілкання,
і акалічнасцяў змякчаючых,
і перамены месцаў ва ўрадзе,
і стрэлка ў гадзінніку не адганяецца.
Ёсць толькі грань
і попел за гранню.

### Алімп

З Алімпа ўсё відаць,
як на далоні.
Час згорнуты ў літару
з-за алфавіта.
А дзесяты памер —
дзесятая ступень бясконцай лесвіцы,
па якой сыходзяць
жывыя языкі полымя.
З Алімпа ўсё чуваць —
да шэпту маўчання.

### Хваля

Хваля ўдарае ў борт.
Затапляе выратавальную лодку.
Хваля не ведае, што робіць.
А ці павінна ведаць?
Усхваляваны тлум
змятае існуючы лад.
Усхваляванае мора
змяняе абрыс берага.
Але выратавальная лодка
вылавіла патанаючых.
Ну і што з гэтага
ў гульні выпадку?
Узбураны гнеў —
лязо вострае —
сячэ налева і направа,
як папала;
толькі ў болю надзея
на адраджэнне.
Вадзяны вал,
як каток,
усё кладзе ўпокат;
толькі ў муле надзея —
зазелянее зямля.

# Аб малітве „Ойча наш”

## (3)

### Чаму некаторыя не верацць у Бога?

Вера ў Бога мае сваю крыніцу ў розуме і ў сэрцы. Такім чынам і пачуцці, і халодная дэдукцыя ў аднолькавай ступені прыводзяць да прызнання Тварца. Чаму ж аднак некаторыя не вераць?

У першыя месяцы пасля абвяшчэння незалежнасці нашай Бацькаўшчыны, пасля некалькіх гадоў адноснай свабоды пры гэтак званай „перабудове”, адзін з дзеячаў апазіцыі заявіў, што зараз 70% насельніцтва Беларусі знаходзіцца па-за ўсякай формай рэлігіі. Пры гэтым рэлігійнасць астатніх 30-ці працэнтаў вельмі павярхоўная і фармальная. Некаторыя запярэчваюць гэтаму і ўказваюць на перапоўненыя храмы, але, мабыць, не лічаць колькі ў дадзеным горадзе насельніцтва, а колькі храмаў! Агулам можна смела прызнаць, што пасля краху бязбожнага камунізму людзі не хлынулі ў храмы. Назіраецца значнае ажыўленне рэлігійнасці, але вядома і выразна бачна, што дзесяцігоддзі праграмнай атэізацыі сваё зрабілі.

Вось таму і ўзнікае пытанне: чаму людзі не вераць у Бога? Адкажам гэтак! Па-першае таму, што некрытычна паддаліся бязбожнай прапагандзе, па-другое — забыліся пра Бога і па-трэцяе — супрацівіліся Яму.

Як вядома, пачынаючы ад кастрычніцкага путчу ў 1917 годзе, у Савецкім Саюзе праводзілася, небывалая ў такіх маштабах дагэтуль, антырэлігійная прапаганда. Спасылаючыся на сваіх папярэднікаў: Маркса, Энгельса, Гегеля, Феербаха і Шапенгаўэра, Ленін аб'явіў вайну ўсякім формам рэлігійнасці. „Мы павінны змагацца з рэлігіяй... Гэта род духоўнай гарэлкі... Мільёны грахоў, свінстваў, гвалтаў і ўсякай фізічнай заразы менш небяспечныя за надасканаленую адухоўленую, прыадзетую ў найпрыгажэйшую вопратку ідэю бозі, — пісаў „вечна жывы” Максіму Горкаму. З часам дзеля будучага шчасця народных масаў разбурана дзесяткі тысяч храмаў і манастыроў, расстраляна тысячы святароў і за ўпартае прытрымоўванне „опіуму”-веры саслана ў лагеры або знішчана некалькі мільёнаў людзей. У трэцяй пяцігодцы, згодна дэкрэту партыі, мела замоўкнуць у межах Савецкага Саюза ўсякая гутарка пра Бога. Аднак партыйнага загаду не хапіла. Спатрэбіліся мільёны атэістычных кніжак, кінафільмаў, п'ес. Напорыста, навыперадкі працавалі тысячы агітатараў, літаратараў і палітрукоў. Гэтак з энтузіязмам годным лепшай справы, пры наяўнасці тысячаў важнейшых праблемаў, эканамічнай галечы, культурным варварстве і тэхнічнай адсталасці, працягвалася барацьба з тым, чаго нібыта няма.

У свой час гітлераўскі міністр прапаганды Гебельс гаварыў, што „тысячы разоў паўтораная хлусня становіцца праўдай”, аб чым добра ведаюць спецыялісты па сучаснай рэкламе. Узброеная ва ўсе тэхнічныя і фінансавыя сродкі атэістычная прапаганда ў значнай ступені дасягнула сваю мэту. Мільёны апустошаных душ, страта вышэйшых ідэалаў, глыбокая расчараванасць сярод моладзі, бездухоўнасць, злачынствы, аборты і разводы — гэта плён таго шаленства. У Святым Пісанні ясна сказана: „Што пасееш — тое і будзеш жаць”, а народная пагаворка кажа: „За што бароліся, на тое і напароліся”. Вось таму пара сеяць іншыя зярняты...

Калі Міхаіл Гарбачоў увёў свой несумненна слушны, але нерэалістычны „сухі закон”, у Чэлябінску меў месца наступны інцыдэнт. Не дачакаўшыся дастаўкі гарэлкі, раз'юшаны натоўп рушыў разбуральнай хваляй праз горад, выкрыкваючы лозунг: „Хлеба і мяса!” Вось якія патрэбы меў перадавы ў свеце, найбольш прагрэсіўны „савецкі народ”. Ён не толькі не апярэдзіў Амерыку, але рад быў бы здаволіцца мясам і гарэлкай, але і гэтага не хапала. Што гаварыць пра жыллё, лякарствы, аўтамабілі, пра нейкі мінімальны камфорт годны не то што „савецкага”, а проста звычайнага чалавека. Заўсёды толькі хапала сродкаў на бязбожную прапаганду і ракеты...

Але ж акрамя прапаганды ёсць і іншая прычына нявер'я. Найагульней можна сказаць, што ёсць людзі, якія забыліся пра Бога, ды супрацівіліся Яму. Слова „забыццё” ў дачыненні да Бога можа гучэць дзіўна, але гэта факт. У мноства людзей, апрача асабістых, матэрыяльных спраў няма ніякіх іншых. Яны імкнуцца да багацця, да славы, да выгодаў, не зважаючы на ніякія абмежаванні ні маральныя тармазы. Пра такіх у Святым Пісанні сказана, што „клопаты веку гэтага і прывабнасць багацця заглушаць слова” (Матф., 13:22).

Ёсць яшчэ людзі, якія супрацівіліся Богу. Яны быццам фарысеі маюць памылковае ўяўленне аб Богу і хацелі б дапасаваць яго да сваіх патрэб. Калі спатыкае іх хвароба, беднасць, калі памірае напрыклад нявіннае дзіцё, калі бачаць яўную несправядлівасць, тады бунтуюцца супраць Бога. „Калі б ён быў, — кажуць, — ніколі не дапусціў бы да гэтага”. Вось таму, што Бог не такі, як хацелася б, многія адвяртаюцца ад Яго і нават выступаюць супраць Яго.

У нейкім сэнсе можна гэта зразумець, але бываюць людзі, якія страцілі веру ў выніку амаральнага жыцця. Яны не хочуць закладаць на сябе маральную вуздэчку, не хочуць змяняць свой неабмежаваны спосаб жыцця... Адна настаўніца з Беларусі заявіла, што яна супраць рэлігійнага выхавання дзіцяці, паколькі гэткім адбіраецца радасць жыцця, бесклапотнасць і свабоду. На жаль, шмат такіх настаўнікаў! Такія людзі павінны зразумець, што нават прыналежнасць да камуністычнай партыі патрабавала ўхвалення ейнай лініі і лаяльнасці, гэта значыць, што апрача прывілеяў былі і абавязкі. Царква таксама вымагае не толькі фармальнай прыналежнасці да яе, але і жыцця паводле ейнай навукі. Калі Апостал Павел прапаведаваў грэцкім філосафам у Афінах аб уваскрэсенні „адны насміхаліся, а іншыя казалі: аб гэтым паслухаем цябе іншым разам” (Дзеі, 17:32). Зразумела, яны ніколі больш не паклікалі Апостала. Гэтак жа было і з намеснікам Феліксам. Калі Апостал загаварыў „аб справядлівасці”, аб уздзяржанні ды аб судзе, што мае быць, — Фелікс, спалохаўшыся, адказаў: „Цяпер холіць, ідзі, як выбяру дагодны час паклічу цябе” (Дзеі, 24:25). Вядома, ён больш ніколі не паклікаў Паўла, бо слухаць яго было непрыемна. Фелікс проста меў нячыстае сумленне.

Гэтак, на жаль, паступаюць многія сучасныя людзі. Яны не вераць у Бога не таму, што гэта непрымальна з разумовых меркаванняў, але таму, што трэба было б перагледзець і змяніць усё сваё грэшнае жыццё. Для многіх гэта празмернае патрабаванне і для іх выгадней не думаць, не ведаць пра Бога. Для іх лепш, каб Бога не было.

*(працяг будзе)*

**а. Канстанцін Бандарук**

# 3-я нядзеля Вялікага Посту (Крыжапаклонная)

Трэцяя надзеля і тыдзень Вялікага Посту называюцца „крыжапаклоннымі”. Напярэдадні нядзелі, традыцыйна падчас вярэчняй, суботняй багаслужбы, на сярэдзіны храмаў выносіцца ўпрыгожаны кветкамі Крыж. У палове поснага перыяду, звязанага са шматлікімі ахвярамі і самаадрачэннем, вернікам прапануецца перанесціся думкамі на Галгофу, каб яшчэ раз паразважаць і асэнсаваць увесь духоўны змест Крыжа і крыжовай Ахвяры Хрыста. Гэтая праўда, выказаная ў словах Апостала: „Ведайце, што не трухлеючым серабром ці золатам адкуплены вы ад марнага жыцця, дадзенага вам ад айцоў, але мнагацэннаю крывёю Хрыста, як чыстага ягняці без сказы” (1 Пётр, 1: 18-19).

Дзве тысячы гадоў таму на Галгофе рымскія жаўнеры ўваткнулі ў зямлю крыж, на якім павіс Ісус Хрыстос. Насуперак вонкаваму выгляду, уяўная перамога зла змянілася ў перамогу над злом. „Глупства для паганаў” сталася натхненнем для хрысціян, якіх пагардліва называлі „спаведнікамі крыжа”. Знак ганебнай смерці ператварыўся ў знак хрысціянскай веры і збаўлення. З незразумелай сілай культ крыжа пашыраўся разам з новай рэлігіяй. „На кожным кроку і пры любых занятках выціскаем на чале знак крыжа”, — пісаў царкоўны гісторык Тэртуліян.

Калі закончыўся перыяд праследавання, крыж стаўся яшчэ болей бачным знакам перамогі Хрыста і хрысціянства. Імператар Канстанцін Вялікі забараніў у 316 годзе караць злачынцаў распяццем. У V стагоддзі імператар Валенцініян памясціў залаты крыж на сваёй кароне. Святы Іаан Залатавусты пісаў, што „крыж знаходзіцца ўсюды: у хатах і ў публічных месцах, на дарогах і на караблях, на пасудзе і зброі”. Гэтым знакам пачыналіся ў свой час усе афіцыйныя дакументы; ім карысталіся замiж подпiсу непісьменныя. Крыж стаўся таксама эмблемай найбольш высакародных дзеянняў і ідэй. Пад гэтым знакам нясе дапамогу пацярпелым дабрачынная, сусветная арганізацыя Чырвонага крыжа. Такую ж форму маюць ордэны, узнагароды за мужнасць, патрыятызм і выдатныя заслугі. Пад знакам крыжа ў лодцы, сімвале экуменічнага руху, плыве да жаданай еднасці ў веры некалькі сот раз'яднаных хрысціянскіх цэркваў. Быў у нашай нядаўняй гісторыі час, калі спілоўвалі крыжы з царкоўных купалаў, зрывалі дзецям з шыі, аднак, усё роўна яны вяртаюцца на сваё месца.

Немагчыма пералічыць усе прыклады бачнай прысутнасці крыжа ў нашым жыцці. Ён проста спадарожнічае ахрышчанаму чалавеку ад калыскі па магілу і гэтым знакам мае закончыцца наша зямное пілігрымства і ўся драма гісторыі, калі на нябёсах заззяе „знак Сына Чалавечага” (Матф., 24:27).

З другога боку, сам мундзір не робіць з чалавека жаўнера, а сцяг у руках неабавязкова абазначае патрыятызм. Верніку неабходна асэнсаваць: што для яго асабіста абазначае гэты вонкавы знак прыналежнасці да Царквы? Ці ў нейкай ступені змяніў ягонае жыццё? За сімвалам прыналежнасці да спаведнікаў крыжа павінна было б пайсці ўсё тое, да чаго гэтая прыналежнасць забавязвае. Гэта перш за ўсё імкненне да перамогі над злом у сабе самім і вакол нас. Мы забавязаны да ўдзельніцтва ў Хрыстовым Крыжы праз цярплівае нясенне ярма нашых штодзённых пакутаў, працы, турботаў і няўдачаў. Мы закліканы „зрачыся сябе... і йсці за Хрыстом”. Гэта значыць, перш за ўсё адмовіцца ад характэрнага амаль кожнаму чалавеку самалюбства і выгодніцтва. Існуюць наказы Божага і царкоўнага закону, якія пастаянна вымагаюць ад верніка самаадрачэння дзеля вышэйшага дабра. Належаць да іх грамадскія, сямейныя і прафесійныя абавязкі. Гэта і ёсць той хрысціянскі крыж, тое саўдзельніцтва ў Хрыстовым Крыжы і той практычны змест знака, які з'яўляецца нашым духоўным гербам.

Гэты наш герб або сцяг Царква раскрывае яшчэ раз перад нашымі вачыма ў Крыжапаклонную нядзелю. Вялікі Пост — найлепшы час, каб прыпомніць, якімі нам выпадае і быць, і чаму служыць.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Божа наш, Божа...

Калі б я, пачынаючы тут свае разважанні, напісаў, што рыба псуецца ад галавы, гэта было б так банальна, што аж усхвалявала б чытача. Таму хачу звярнуцца на Найвышэйшага і запытаць: Божа наш, Божа, чаму на ўсё гэта, што дзеецца ў нас, глядзіш і не грыміш? Ці Табе, Уладару Сусвету, сапраўды лепшая і даражэйшая рэлігія рыма-каталіцкая за праваслаўную? Госпадзе, мне, маленькаму смецццю, нельга нат задумоўвацца над рэлігійнымі вартасцямі, бо я ў іх нічагуські не разбіраюся, але мне вельмі сумна і балюча, калі я бачу, як наш праваслаўны народ церпіць здзекі з боку найвышэйшага духавенства і многіх вернікаў каталіцызму, хаця б тут, на Беласточчыне.

Мы тут церпім здзекі падвойна: раз як праваслаўныя, а другі раз — як нацыянальная меншасць і гэта заўсёды таму, што на нашу бяду польскімі чыноўнікамі, якія вырашаюць аб нашым „быць, або не быць”, нягледзячы на сістэму ўлады, з'яўляюцца нігілісты. Мо гэта недакладны эпітэт на іх акрэсленне, бо мо трэба было б такіх людзей назваць шавіністамі, але праўдай гэта палічаць ды і пагневаюцца.

Народ ён, як народ, заўсёды бярэ прыклад з кагосці вышэйшага за сябе і прысвойвае гэта згодна з тым, як ідэя выказана „зверху” супадае з ягонай думкай і паняццем. Калі б калісьці камуніст Эдуард Герак не трубіў на ўвесь свет, што ў Польшчы няма аніякіх нацыянальных меншасцей, то і мужчына ў Гарадку не аблаяў бы нас трох (М. Хмялеўскі, С. Копа і я) за тое, што стоячы на тратуары гаварылі па-беларуску, то і жанчына ў Бельску паўстрымалася б ад праклёну на нас трох (Н. Артымовіч, Я. Морданя і мяне) за беларускую мову вечарам на вуліцы. Калі б прэзідэнты гарадоў і іерархі Касцёла не паступалі з намі так брыдка, то і іхныя авечкі не білі б стэндаў, шыбін і не пагражалі пабоямі.

Нашым няшчасцем на сваёй зямлі ёсць тое, што ніякія ўлады, ані дзяржаўныя, ані касцельныя не хочуць слухаць тых палякаў, якія нам спрыяюць трымаючыся законаў. Напрыклад, гісторыя і сённяшнія людзі польскага ўрада прызналі Супрасльскі праваслаўны аб'ект згодна з праўдай, а вось каталіцкі клір не аддае, або хоча славы за чужую справу — аддаць праваслаўны манастыр у карыстанне цывільным грамадзянам Супрасля. Не бойся, сваіх аб'ектаў падобнага тыпу не аддае нават католікам. Так ёсць і з памяшканнем ГП БГКТ, аб чым ужо збрыдла гаварыць і пісаць, бо відна голым вокам, што ніхто з гарадскіх улад не хоча гэтага слухаць. Гэта вельмі прыкра і з тае прычыны, што калісьці выганялі нас у СССР, а цяпер пазбаўляюць роўных правоў з палякамі за тое, што быццам дэлегацыя ездзіла ў Мінск, ці яшчэ кудысьці, каб Беласточчыну далучыць да БССР. Гаворыць аб гэтым прэзідэнт і гаворыць духавенства, а хлусні не сароміцца ніхто, хаця ўсе ведаюць, што хлусня мае каротнія ножкі і дрэнна ўспрымаецца ў свеце.

Усім, хто ў іудавы спосаб абыходзіцца з праваслаўем варта ведаць, што Татарская Арда валодала Руссю 250 гадоў, але не чапала яна праваслаўнай веры. А што цяпер маем на Беласточчыне?

На канец хачу выказаць сваю ўдзячнасць пану Казімежу Мараўскаму, за ягоную паставу ў адносінах так да праваслаўнага люду, як і да беднага. Гэта Чалавек з вялікай літары. І вельмі шкада што Ён не з'яўляецца рулявым Польшчы, хаця б дзве кадэнцыі, каб можна было ўпарадкаваць нашыя, праваслаўна-меншасныя справы.

Божа, заступіся за нас!

**Васіль Петручук**

P.S. Казімеж Мараўскі — старшыня Unii Chrześcijańsko-Społecznej даў інтэрв'ю для месячніка „Przegląd Prawosławny” (н-р 3), у якім паказвае магчымасці палітычнага наладжання нармальных адносін паміж людзьмі розных веравызнанняў і народаў.

# MIĘDZYNARODOWE TARGI BIAŁOSTOCKIE

# МІЖНАРОДНЫ БЕЛАСТОЦКІ КІРМАШ

# BIALYSTOK INTERNATIONAL FAIR

# МЕЖДУНАРОДНАЯ БЕЛОСТОКСКАЯ ЯРМАРКА

INTERNATIONAL FAIR BIAL EXPO BIALYSTOK • POLAND

15-101 Białystok, ul. Jurowiecka 21, tel. 75-19-60, 54-52-39, fax 75-19-60

## ЗАПРАШЭННЕ НА КІРМАШ

„БЯЛЬ-ЭКСПА" дзейнічае на аснове польскага гандлёвага права. Сядзібай кірмашоў з'яўляецца Беласток — найбольшы горад паўночна-ўсходняй Польшчы, вялікі прамысловы, гандлёвы і навуковы цэнтр. Выгаднае распалажэнне горада, разбудаваная інфраструктура, а перш за ўсё эканамічны патэнцыял, у натуральны спосаб спрыяюць наладжванню гандлёвых кантактаў.

У нашых мерапрыемствах удзельнічаюць фірмы з Беларусі, Расіі, Украіны і, вядома, з Польшчы.

Нашай дзейнасцю мы ў далейшым хочам спрыяць эканамічнаму супрацоўніцтву Польшчы і Беларусі. Ствараем прэферэнцыйныя ўмовы для беларускіх фірм, якія жадаюць удзельнічаць у кірмашах „БЯЛЬ-ЭКСПА". Кожны ўдзельнік нашых кірмашоў, незалежна ад яго вытворчага ці эканамічнага (фінансавага) патэнцыялу, трактуецца нароўні з іншымі партнёрамі. Малыя і сярэднія фірмы, прымаючы ўдзел у нашых мерапрыемствах, могуць паводле аднолькавых прынцыпаў спаборнічаць з вялікімі прадпрыемствамі за заваяванне годнага месца на рынку.

Мы асабліва спрыяем тым удзельнікам, якія ўпершыню прымаюць удзел у Міжнародным кірмашы. З гэтым часта звязана праблема пераадолення экспанентамі-пачаткоўцамі свайго роду псіхалагічнага бар'ера. Канфрантацыя заўсёды забавязвае — і мы гэта разумеем.

Неабходным з'яўляецца пераломванне ў польска-беларускіх эканамічных кантактах не толькі псіхалагічных, але і юрыдычных, арганізацыйных і тэхнічных бар'ер, напрыклад, „вузкіх" гранічных пераходаў.

Дзейнасць нашай фірмы ў нейкай ступені садзейнічае пашырэнню суседскіх кантактаў. Мы верым, што нашая прапанова сустрэнецца з зацікаўленасцю дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў, а таксама прыватных прадпрымальнікаў з Беларусі.

Усіх сардэчна запрашаем на нашы гандлёвыя мерапрыемствы ў 1995 годзе. Ніжэй друкуем каляндар кірмашоў да канца 1995 г. і дэталёвыя ўмовы ўдзелу беларускіх фірм у такіх мерапрыемствах.

ДЫРЭКТАР
д-р Мікалай Козак

## КАЛЯНДАР 1995

| | |
|---|---|
| 25-27 студзеня | II Кірмаш харчоў і здаровай ежы. |
| 22-24 лютага | II Кірмаш будаўніцтва, аснасткі інтэр'ера, аховы маёмасці і „ўсё для дома". |
| 15-17 сакавіка | Кірмаш касметыкі, гаспадарчай хіміі і ўпакоўкі. |
| 5-7 красавіка | III Кірмаш прамтавараў: тканіны, адзежы, абутку „Лета'95". |
| 10-12 траўня | Кірмаш марозіва, пітва, піва, віна і спіртнога. |
| 7-9 чэрвеня | Кірмаш кніг, паліграфіі, выданняў і рэкламы. |
| 23-25 жніўня | II Кірмаш дзіцячых, папяровых і школьных тавараў. |
| 6-8 верасня | III Кірмаш будаўніцтва, аснасткі інтэр'ера, аховы маёмасці і „ўсё для дома". |
| 11-13 кастрычніка | III Кірмаш харчоў і здаровай ежы — „Плады восені". |
| 8-10 лістапада | IV Кірмаш прамтавараў „Раство'95". |
| 14-17 снежня | II Святочны кірмаш „Ёлка'95". |

## КАЛЕНДАРЬ 1995

| | |
|---|---|
| 25-27 января | II Ярмарка продовольствия и здоровых продуктов питания. |
| 22-24 февраля | II Ярмарка стройматериалов, оснащения интерьера, охраны и защиты имущества и „всё для дома". |
| 15-17 марта | Ярмарка косметики, хозяйственной химии и упаковки. |
| 5-7 апреля | III Ярмарка промтоваров: тканей, одежды, обуви „Лето'95". |
| 10-12 мая | Ярмарка мороженого, напитков, пива, вина и спиртного. |
| 7-9 июня | Ярмарка книг, полиграфии, печати и рекламы. |
| 23-25 августа | II Ярмарка детских, бумажных и школьных изделий. |
| 6-8 сентября | III Ярмарка стройматериалов, оснащения интерьера, охраны и защиты имущества и „всё для дома". |
| 11-13 октября | III Ярмарка продовольствия и здоровых продуктов питания — „Плоды осени". |
| 8-10 ноября | IV Ярмарка промтоваров „Рождество'95". |
| 14-17 декабря | II Праздничная ярмарка „Ёлка'95". |

## ІНФАРМАЦЫЯ
### аб умовах удзелу ў Кірмашы „БЯЛЬ-ЭКСПА" беларускіх фірм

Зыходзячы з прадпасылкі, што развіццё польска-беларускага эканамічнага супрацоўніцтва і размеры тавараабароту ў значнай меры залежаць ад умоў, ствараемых па абодвух баках мяжы — Міжнародны Кірмаш „БЯЛЬ-ЭКСПА" вырашыў да канца 1995 года прымяняць прэферэнцыйныя цэны для фірм з Рэспублікі Беларусь, якія прымаюць удзел у нашых мерапрыемствах.

Прэферэнцыі гэтыя датычаць перш за ўсё цэн, якія плацяць беларускія фірмы за стандартны выставачны ўчастак (плошчай у 6 кв. м) на Кірмашы і іншых аблягчэнняў, зробленых арганізатарамі ў карысць экспанентаў з Беларусі.

Цана за 1 кв. м выставачнага ўчастка (да 6 кв. м агульнай плошчы) складае ўсяго 25 працэнтаў ад цаны для польскіх экспанентаў.

І так:

1. Цана за 1 кв. м стандартнага выставачнага ўчастка (агульнай плошчай у 6 кв. м) складае 12 дол. ЗША, г.зн. 12 дол. ЗША х 6 кв. м = 72 дол. ЗША.

2. За чарговыя два метры выставачнага ўчастка: па 25 долараў ЗША, г.зн.: цана за ўчастак плошчай у 8 кв. м = 6 кв. м х 12 дол. ЗША = 72 дол. ЗША + 2 кв. м х 25 дол. ЗША = 50 дол. ЗША; РАЗАМ = 122 дол. ЗША.

3. Толькі за кожны наступны кв. метр выставачнага ўчастка — звыш 8 — аплата складае такую ж суму, як і для іншых удзельнікаў, г.зн. каля 40 дол. ЗША. Напрыклад, выставачны ўчастак плошчай у 10 кв. м каштуе:

першыя 6 кв. м = 72 дол. ЗША
наступныя 2 кв. м = 50 дол. ЗША
наступныя 2 кв. м = 80 дол. ЗША
------------------------
Разам: 202 дол. ЗША

4. У рамках гэтай цаны арганізатар перадае ў карыстанне поўнасцю абсталяваны выставачны ўчастак, у тым ліку бясплатныя неабходныя прылады.

5. Беларускім фірмам гарантуем бясплатнае занясенне ў каталог выстаўкі.

6. За кошт арганізатара Кірмашу рэдакцыі газет і радыёвяшчання, якія супрацоўнічаюць з „БЯЛЬ-ЭКСПА", перададуць інфармацыю аб беларускіх фірмах — удзельніках Кірмашу, разам з іх афертай.

7. Арганізатар Кірмашу мае магчымасць забяспечыць беларускім фірмам кантакты з адпаведнымі прадстаўнікамі польскіх фірм.

8. Для фірм, якія ўпершыню ўдзельнічаюць у нашых мерапрыемствах, мы гатовы пайсці на значныя ўступкі, у тым ліку і ў справе цэн на нашыя паслугі.

Перадаючы гэтую інфармацыю, мы выказваем перакананне, што прапанаваныя „БЯЛЬ-ЭКСПА" ўмовы ўдзельніцтва ў кірмашы з'яўляюцца дастаткова прывабнай прапановай.

## ИНФОРМАЦИЯ
### об условиях участия в Ярмарке „БИАЛЬ-ЭКСПО" белорусских фирм

Исходя с принципа, что развитие польско-белорусского экономического сотрудничества и размеры товарообмена в значительной степени зависят от условий, создаваемых по обеих сторонах границы — Международная Ярмарка „БИАЛЬ-ЭКСПО" решила до конца 1995 года применять преференциальные цены для фирм с Республики Беларусь, участвующих в наших мероприятиях.

Преференции эти касаются, в первую очередь, цен, которые платят белорусские фирмы за стандартный выставочный участок (площадью в 6 кв. м) на Ярмарке и других усовершенствований, сделанных организатором в пользу экспонентов с Беларуси.

Цена за 1 кв. м выставочного участка (до 6 кв. м общей площади) составляет всего 25 процентов от цены для польских экспонентов.

И так:

1. Цена за 1 кв. м стандартного выставочного участка (общей площадью в 6 кв. м) составляет 12 долл. США, т.е. 12 долл. США х 6 кв. м = 72 долл. США.

2. За следующие два метра выставочного участка: по 25 долл. США, т.е.: цена за участок площадью в 8 кв. м = 6 кв. м х 12 долл. США = 72 долл. США + 2 кв. м х 25 долл. США = 50 долл. США; ВСЕГО = 122 долл. США.

3. Только за каждый следующий кв. метр выставочного участка — свыше 8 — требуется оплата как и от других участников, т.е. около 40 долл. США. Например, выставочный участок площадью в 10 кв. м стоит:

первые 6 кв. м = 72 долл. США
следующие 2 кв. м = 50 долл. США
следующие 2 кв. м = 80 долл. США
------------------------
Итого: 202 долл. США

4. В пределах этой цены организатор предоставляет экспоненту полностью оборудованный выставочный участок, в том числе и бесплатное необходимое оснащение.

5. Белорусским фирмам гарантируем бесплатное занесение в каталог выставки.

6. За счёт организатора Ярмарки редакции газет и радиовещания, сотрудничающие с „БИАЛЬ-ЭКСПО", предоставят информацию об белорусских фирмах — участниках Ярмарки, вместе с их офертой.

7. Организатор Ярмарки в состоянии обеспечить белорусским фирмам контакты с соответствующими представителями польских фирм.

8. Для фирм впервые участвующих в наших мероприятиях, мы готовы пойти на значительные уступки, в том числе и в деле предлагаемых цен на нашие услуги.

Передавая данную информацию, мы убеждены в том, что предлагаемые „БИАЛЬ-ЭКСПО" условия участия в Ярмарке являются достаточно привлекательным предложением.

 

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніліся мне два прыгожыя сны, дык спадзяюся, што мо чакае мяне нешта добрае.

Першы сон. Быццам мы з мужам заграніцай. Прыехалі да знаёмых, у якіх мы калісьці былі, але не папярэджвалі іх і прыехалі неспадзявана. Бачу іхні прыгожы дом, але не такі, як быў раней. У хаце ўсё інакш расстаўлена, ды і пакоі размешчаны не так, як у сапраўднасці. Я ўваходжу і бачу гаспадыню. Яна са мной прывіталася і далей робіць сваю работу.

Я непакоюся, што яны незадаволены, бо мы прыехалі без папярэджання, але праз вакно бачу, што мой муж ходзіць па агародзе з гаспадаром. Аглядаюць усё, а гаспадар водзіць і паказвае. Значыць, не злуецца.

Яшчэ заўважаю, што ў ложачку ляжыць невялікі хлапчук, мо яму гадзікі два. Ведаю, што ў іх нарадзілася дзіця. Раптам хлопец устае ды кажа: „А я вас ведаю, вы — цёця Манька!" Мне тут вельмі прыемна.

У другім сне я была быццам бы ў незнаёмым горадзе, але быў ён нязвыклай прыгажосці. Быццам гэта нейкі пасляпямецкі горад, мо Голдап, але не, называецца неяк інакш. Кожны дом — як на нейкай карцінцы, такі цудоўны. Такога прыгожага горада я яшчэ не бачыла ў жыцці.

Добрыя сны, праўда, Астроне?

**Маня**

Маня! Вельмі добрыя. Быць заграніцай — перамена на лепшае. Другі сон пацвярджае першы. Прыгажосць не можа абазначаць кепскага.

**АСТРОН**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. дзяржава на поўдні Афрыкі, 3. мяккая мэбля для ляжання, 5. новая вестка, 7. узорыстае пакрывала на ложак, 9. рака ў Індыі, 10. памешчыцкае саслоўе, 11. кумір, 12. ніжняя канечнасць, 14. беларускі народны танец, 16. спосаб, прыём, 17. воін у султанскай Турцыі.

**Вертыкальна:** 1. дзяржава на поўначы Афрыкі, 2. адказнасць за злачынства, 3. там вада стала вінам, 4. горад на захадзе Суматры (Інданезія), 6. струнны інструмент, 8. пямашканне пад першым паверхам, 9. сталіца Кубы, 11. словазлучэнне ўласцівае толькі адной мове, 13. вырабляе шкуры, 14. вецер з маланкамі і грымотамі, 15. вялікі гармонік.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 6 н-ра:** рубель, Ельцын, цыклон, Лондан, альянс, цынізм, каўнер, Англія, Ламарк, азбест, Еўропа.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Красоўскаму** з Бельска-Падляшскага і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## Карысныя парады Янкі Целушэцкага

### Высокі абцас

Якой вышыні павінен быць абцас у жаночых туфлях?

Гэта залежыць ад моды, скажуць некаторыя. Але ж абцас служыць не толькі патрабаванням моды. Вельмі высокі абцас надае назе ненатуральнае палажэнне, пакарочвае крок і недастаткова змякчае штуршкі і страсенні, якія ўзнікаюць пры хадзе. Пункт апоры пры гэтым пераносіцца ўперад, і цела ўсім сваім цяжарам ціснe на пярэднюю частку ступні.

Наша ступня не дакранаецца ўсёй падэшвай да плоскасці, а падобна да трыножніка мае свае пункты апоры. Такая будова ступні дазваляе ёй вытрымліваць увесь цяжар цела чалавека.

Калі вага цела жанчыны, напрыклад, 48 кілаграмаў, а вышыня абцаса яе туфляў 3—4 сантыметры, увесь цяжар цела размяркоўваецца на абедзве ступні раўнамерна — па 24 кілаграмы; з іх 18 кілаграмаў на пятку і толькі 6 — на пярэдні аддзел ступні. А пры абцасе ў 7 сантыметраў пярэдні аддзел ступні перагружаецца амаль у тры разы больш нормы. Пры гэтым папярочны звод ступні робіцца пляскаты і нібы распластваецца.

Ад доўгага нашэння высокіх абцасаў на падэшве можа ўтварыцца балючы мазоль. Пальцы ўпіраюцца ў насок туфля, а гэта часам выклікае іх скрыўленне, асабліва часта — вялікага пальца з разрастаннем „костачкі". Вось чаму ўпартыя модніцы ўрэшце бываюць вымушаны насіць спецыяльныя артапедычны абутак, а часам ім нават даводзіцца звяртацца за хірургічнай дапамогай.

Паводле вучоных, каля паловы насельніцтва зямнога шара хварэе рознымі ступенямі пляскатай ступні, якая часцей сустракаецца ў жанчынн. Адна з прычын развіцця пляскатай ступні — нерацыянальны абутак, у прыватнасці абутак з вельмі высокім абцасам.

Эфектыўная мера прадухілення пляскатасці ступні — правільны падбор абутку.

Калі ўвесь час насіць абутак без абцаса, гэта таксама можа садзейнічаць развіццю пляскатасці ступні. Надобра праводзіць увесь дзень дома або на рабоце ў тапачках: імі трэба карыстацца толькі кароткі час для хатняга ўжытку.

Такім чынам, абутак рабочы і для хадзьбы па вуліцы павінен быць з невялікім устойлівым абцасам вышынёй 3—4 сантыметры. Толькі выхадны абутак, які надзяваецца на непрацяглы час, можа мець высокі абцас.

## АБ'ЯВА

Мне 57 гадоў. Рост — 173 см. У мяне 11-гадовая дачка, вышэйшая адукацыя. Без дрэнных схільнасцей, багаты, здаровы, спраўны ў кожным выпадку. Хачу пазнаёміцца з маці, жонкай, без нядобрых схільнасцей, з лагодным характарам, бесканфліктнай, жанчыкай, ва ўзросце да 45 гадоў. Існуе магчымасць весці сталовую або атрымаць добрую работу. Пажадана даслаць здымак усёй фігуры.

Адрас: Witold Wojszel, ul. Sikorskiego 2, 58-580 Szklarska Poręba, Polska.

## ПАРНАС

Чытальніцкая літстолка на негарантаваных паях

### Ахова прыроды

Ахова прыроды —  
Рэч неабходная  
Для лесу, пародаў  
І месцаў балотных.  
Пашыраем запаведнікі  
І новыя ў плане;  
Абы толькі ўрэднікі  
Нас не трымалі ў абмане.

Дык гэта добрая рэч.  
Сэрца грэе ў нас  
Як тая найлепшая печ;  
Абы толькі агонь не пагас.  
Плануем пакуль на паперы,  
Але як пойдзе ў ход  
Шчыра паверым:  
Мы ўсе, цэлы род!  
А пакуль пушчу крадуць  
І вырэзваюць ліхадзеі,  
Абманам усе дзверы абмажуць  
І адчыняць, зладзеі.  
Запаведнікі будзем рабіць  
Як усё будзе знішчана,  
Рукамі ў паветра біць.  
Прыроды дні — палічаны.

**Мікалай Панфілюк**

### Час

так нядаўна Раждажаство Хрыстова мы віталі  
ужо Яго Стрэчання шчасліва дачакалі  
зараз Вялікі Пост настане час роздумаў  
над грэшным зямным нашым жыццём  
прыйдзе Страстная Сядміца час пакутаў  
Хрыстовых за грахі ўсяго свету і нашыя  
падумайма хрысціяне ці і мы не  
аднаўляем Ягоных ранаў што дзве  
тысячы гадоў учынілі Яму людзі злыя  
усе будзем цешыцца з Яго ўваскрасення  
усе радасна ўсклікнем: Хрыстос уваскрос!  
сапраўды ўваскрос хоць шмат мук перанёс  
прыйдуць новыя святы а наш час нядоўгі  
не ведаем калі нас Айцец к сабе пазаве  
думайма браццця як нам жыць без страху  
стаць перад Яго ўсемагутным абліччам

**Аўрора**

## ВЯСНА ў фальклоры

Прыдзі, прыдзі вэсна!..  
Прыдзі, прыдзі вэсна,  
Прыдзі, прыдзі красна,  
До нас у точок,  
Прынэсі нам збожа,  
Прынэсі цвіточок,  
Коб звіті віночок!  
Едэ, вэсна, едэ  
На золотом коню,  
У зэлёнум кафтане,  
У брычцы седячы.  
Вэээ, вэээ вэсна  
Ясные дэнёчкі,  
Частые дожджочкі,  
Зэлёные травы,  
Гожэнькіе квіточкі,  
Нам на віночкі.

### Ой, вэсна моя вэсёлая...

Ой вэсна моя вэсёлая  
Розвэсэліла ўсе горочкі,  
Усе горочкі, усе доліночкі,  
Доліночкі, дэ збіраліс паробочкі.  
Збіраліс на мед-горэлочку  
складаліс.  
Складаліс, коб помстіті пану  
змоўляліс.

*(Песні з Плюціч запісаў Янка Целушэцкі)*

# РАЙ

Ад маленства цікавіла мяне магчымасць зразумення і пагаднення паміж чалавекам і прыродай, жывой і неадухоўленай, і іншым чалавекам. Памятаю, у свой час не меў я праблем у зразуменні спраў, з якімі да мяне прыходзілі мае знаёмыя коцікі, сабачкі, шпак, а нават падсвінак. Не беглі яны да мяне толькі прасіць есці ці ўцякаючы пад абарону маіх слабых, дзіцячых, але ўсё ж чалавечых рук. Яны ведалі, што я іх разумею, і я ведаў іх мову. Не памятаю ўжо сёння, ці я з натуры меў такую здольнасць ці, можа, усе дзеці аднолькава лёгка вывучаюць як мову чалавечую, так і прыроды або, можа, застаецца гэта некаторым людзям у спадчыне ад тысячагоддзяў, спрадвеку, з супольнага кораня? Потым, вядома, чалавек траціць тую Божую ласку нявіннасці, якую маюць нават найбольш лютыя зверы — яны заўсёды ў райскім стане нявіннасці, бо нават забойствы ўчыненыя імі — не грэх. Няма ў іх сумлення падобнага чалавечаму — вывучанага, маралі, не ўмеюць і не могуць ілгаць, бо ўсе яны — поўныя праўды і часціні Божыя стварэнні. А пакутаваць мусяць разам з чалавекам — ад хваробы, старасці, заўчаснай і ганебнай смерці, „нялюдскага" трактавання чалавекам (яно як найбольш людскае, толькі чамусьці асацыюецца са зверскім!).

Чалавек прагне Раю, дзе чакаюць яго чыстая прырода, чыстыя адносіны паміж людзьмі, прагне Царства Божага, „дзе львяня будзе ляжаць поруч ягняці", дзе ўсё падлягаць будзе справядлівым правілам Божага Закону. Але гэта ў будучыні, пасля цялеснай смерці, бо так напісана ў святых пісаннях чалавецтва, не толькі ў яўрэйска-хрысціянскім. Праўда, у некаторых веравызнаннях асаблівую ласку набудуць, напрыклад, ваяры, што забілі пры жыцці як найбольш „нявераных", а найбольшай іхняй асалодай будуць гарэмы прывабных гурый для кожнага. Кожнаму паводле яго мараў і патрэб!

Чалавецтва прагне гарманічнасці, дабра, міру, любові (хаця агулам робіць усё наадварот), ведаючы і верачы, што гэта можа ўратаваць кожнага паасобку і ўсіх разам. Але ў сапраўднасці чалавеку шчасце не асацыюецца з магчымымі райскімі вітаннямі ў абдоках паміж Анёлаў, ці нават з рэальна прадстаўленым у Біблії райскім побытам у Царстве Нябесным пад Хрыстовым і Святых уладараннем на ачышчанай, Новай Зямлі. Часта нават веруючы чалавек скажа: „Ну, я веру, але ўсё ж гэта трэба браць сімвалічна, бо як жа ж можа гэта быць, каб Рай вярнуўся?". Але запытайце ў дзіцяці: як будзе ў Раю? Яно скажа, не ведаючы нават ні крышынкі з прамудрых кніг чалавецтва: „Я там буду, Аля, мама з татам, бабка з дзедкам, нашы Мурка і Бобік, і Рабка, і многа будзе кветак, сонца, смачных пладоў, і цёцю Надзею сустрэнем, што цяпер жыве ў Пана Бога, але ўсё ж за намі сумуе..."

І трэба нам верыць, што гэта — праўда. Будзьма Людзьмі, як яны, Дзеці.

**Вандал Арлянскі**


## Ніва

"Niwa"  
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,  
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міровіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


 

# ПАРОДЫІ

## ЦУД!

*Хіба можна не спыніцца —*
*Гэта варта паглядзець.*
*.........*
*Ці паненка то, ці пані?*
*А спадніца — да плячэй...*

Віктар Стрыжак

Цуд! На пляцы маладзіца
Дзве гадзіны ўжо вішчыць.
Вецер ёй задзёр спадніцу
Ї не хоча апусціць.

Хіба можна не спыніцца —
Гэта варта паглядзець.
Не глядзіце, хто баіцца
Нечакана звар'яцець.

Я ж спыніўся і кайфую,
Лёсу дзякую за цуд.
Што крычаць наўкол — не чую,
Бо гляджу, як п'ю вермут.

Ці паненка то, ці пані?
Ці замужняя ці не?
Я плюю на ўсе пытанні,
Зразумела ўсё тут мне.

За каршэнь вазьму я вецер
Ї закіну ў чортаў сад.
Хай там марыць аб кабеце
Гэты д'яблаў супастат!

**Вінцук Асцюк**

## СЕНТЭНЦЫІ

На камяні сон мяккі.

* * *

Гарбатыя коні
не заменяць вярблюдаў.

* * *

На крывым коле
гонку не выйграеш.

* * *

Кнігу напісаць не лёгка. Яшчэ цяжэй перажыць дні вартыя кнігі.

* * *

Калі на языку горыч —
і соль салодкая.

* * *

З тупіка і крэтава дарога — выйсце.

**Барыс Руско**

# НІЎКА



Мал. А. Гуцола

## Крыўда

Што б хто ні казаў, а мая жонка — люты звер. Што ні рабі, усё ёй не так. Чамсьці ўвесь час незадаволена, бурчыць, бы той сабака на незнаёмца. А бывае, што і зусім у яе мову аднімае.

Учора прыходжу вечарам дахаты. Саджуся вячэраць. Бразь талерку на стол! „На, еш, каб ты падавіўся!" Культуры анiякай. Хіба так можна? Ды ўрэшце, што здарылася? Выпіў жа ўсяго нейкія сто грамаў гарэлкі і дзве пляшкі піва. А яна чаўпе: „Ад цябе прэ, як са смярдзючай бочкі!"

Іншая справа суседка: не жанчына — цуд! Заўсёды: „Янačак! Яначак! Можа, кавы вып'еш? Ды не, пачакай... Учора госці былі, дык во кілішак гарэлкі для цябе прыхавала". Чалавек! Свайму мужу не налівае. Не п'е. Адвучыла. Ён, як толькі дахаты прыйдзе, заўжды сабе занятак знойдзе. Дываны выбівае, посуд мые ці нешта майструе. А калі свята нейкае, то кніжку ў рукі — і на канапу. Чытае. Самым разумным, мабыць, хоча быць. А ўсё роўна жонка дурнем выстаўляе. Я ж — не, дома ні да якой справы і пальцам не дакрануся. Для гэтага ёсць жонка. Няхай працуе. (Так заўжды суседка кажа).

А ўзяць грошы. Свайго заробку мне, вядома, бракуе. У жонкі ж ніколі ні капейкі не возьмеш. І апраўданне заўжды знойдзе: то дзецям абутак трэба купляць, то ў самой калготкі парваліся. А спытай на піва — гвалт: „Я сама ў людзей пазычыла!" Пазычаць мо і пазычыла, а на піва дай! Надакучыць прасіць — іду да суседкі. Ніколі не адмовіць. „Калі ласка, Яначак! Аддасі калі-небудзь, а не аддасі, то і так добра будзе. Можа, болей трэба, не саромейся, кажы". У яе заўсёды ёсць грошы. Яна свайго недарэку ў дзень зарплаты ловіць каля касы. Чысціць кішэні, а ён ёй ані слоўца. Дысцыплінку чуе. На вуліцы капейку знойдзе — дахаты нясе.

А ў маёй жонкі век грошай няма...

Дык што тут казаць. Няўдалая ў мяне жонка. Колькі жыву — пакутую. Вось бы памяняцца з суседам жонкамі — жыў бы як белы чалавек!

**Іосіф Палубятка**

## Смех у санаторыі

— Алё, алё! Прашу хутка прыехаць! Нейкі мужчына намагаецца залезці ў маю кватэру па драбіне.

— Вы звоніце ў пажарную каманду, калі ў вашай справе трэба званіць у паліцыю.

— Мне патрэбны пажарнікі. Бо ведаеце, гэты мужчына вельмі прыгожы, а драбіна ў яго — кароткая.

* * *

— Ведаеш, Крыся, я сёння ў добрым настроі дала Колі 10 злотаў на піва.

— А што на гэта твой муж?

— Пацалаваў мяне ў шчаку і сказаў „дзякую".

* * *

— Чаму вы хочаце ўзяць развод? — пытае суддзя.

— Таму, што праз два тыдні пасля шлюбу жонка падавала мне тапкі, а сабака вітаў брэхам. Цяпер усё наадварот.

* * *

У прыёмную гасцініцы прыходзіць маладая жанчына:

— Выбачайце, ці мой муж прапісаўся ў вас?

— Як прозвішча?

— Кавальскі ці Кавалеўскі, неяк так...

* * *

— Чаму вы такі знерваваны?

— Падумай: мая жонка вынесла з дому ўсе рэчы і выбралася ад мяне.

— Не турбуйся — магло б быць горш.

— Як гэта?

— Бачыш, мая вынесла з дому ўсе грошы, але сама асталася.

* * *

— Вы хіба халасцяк? — пытае парцье маладога рабочага ў варотах прадпрыемства.

— Гэта праўда. А як вы здагадаліся?

— Бо прыходзіце штодзень з іншага боку.

* * *

— Вельмі вам спачуваю, — гаворыць удзельнік пахавання ўдаве, — гэта страшна быць так раптоўна пакінутай мужам...

— Што вы! Ён пакінуў мяне зараз жа пасля шлюбу. Цяпер ён папросту памёр.

**Даслаў
Андрэй Гаўрылюк**

## ЖАХ

*Прапануем чарговыя анекдоты з менскага выдання „Жах", органа прывідаў і пачвараў.*

* * *

Ляціць Кебіч у самалёце. Раптам у самалёта дно адвалілася. Усе схапіліся за поручні і вісяць. Пілёт кажа:

— Трэба, каб нехта ахвяраваў сабой, тады ўсе астатнія даляцяць да Расеі.

Пасьля доўгага маўчаньня Кебіч кажа:

— Дзеля нашага народу я ахвярую сабой.

Ї ўсе запляскалі ў ладкі.

* * *

Стуардэса аб'яўляе:

— Наш самалёт ТУ-134 падняўся на вышыню дзесяць тысяч мэтраў, і на гэтым наш экіпаж развьвітаецца з вамі!

* * *

Злавіў аднойчы людажэр студэнта сабе на абед. Сустракае другога людажэра. Той у яго пытаецца:

— Ну, здароў! Што ў цябе сёньня на абед?

— Студэнт, — кажа той.

— Слухай, адпусьці ты яго! Я быў таксама студэнта злавіў, але яшчэ вада не пасьпела закіпець, а ён ужо там усю бульбу зжэр.

* * *

Вярнуўся чукча з паляваньня. Жонка ў яго пытае, чаму безь нічога прыйшоў. Чукча кажа:

— То качкі высока ляталі, то я нізка сабаку падкідаў.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Мая маладосць аказалася нецікавая. А думалася мне некалі, што перада мной шырокі свет з усімі яго радасцямі і багаццем. Была мода на свабодны стыль жыцця. Нават не выпадала „адмовіць" нейкаму хлопцу на прыватцы. Умовы дзеля гэтага былі, бо часцей за ўсё вечарыны мы наладжвалі ў сяброў ці сяброваk, якія жылі ў прасторных вілах. Бацькі іх тады адступалі нам, скажам, адзін паверх, і там кожны мог сабе знайсці адпаведны куточак. Зрэшты, мы не саромеліся адзін другога, часамі ў адным пакоі было некалькі пар. Секс, секс, секс!

Я не магла сабе ўявіць, што такія прыемнасці могуць скончыцца трагічна. У мамы вочы не высыхалі ад слёз. Простая кабета, думалася мне, дык і разумее ўсё проста, а можна сказаць, нават прымітыўна. Не разумее яна чыстага сексу. На яе думку, усё мела быць па парадку: знаёмства, „хаджэнне", шлюб, дзеці. Ну, і што б гэта было за жыццё, калі б у ім не было асаблівых узрушэнняў?.. Бацька не гаварыў са мною, калі здаралася мне не вярнуцца нанач. Ніколі не кідаўся біцца, але і не глядзеў у мой бок. Быў звычайным рабочым на фабрыцы.

Часамі, плачучы, мама папярэджвала, што ўсё гэта можа кепска скончыцца. Я не верыла. Жыццё, поўнае таямніц і прыгод, чакала мяне. Інакш я яго сабе і не ўяўляла. Чым больш хлопцаў — тым лепш! Я не баялася цяжарнасці, бо заўсёды карысталася антыканцэпцыйнымі сродкамі.

Але сталася — і нават не ведаю, якім чынам. Відаць, мы тады замнога выпілі. Сталася — і нават не ведаю, з кім. Можа, падпіўшы, я забылася ўзяць таблетку... Прынамсі ніхто з прысутных тады хлопцаў не прызнаецца да бацькоўства. Божа, што рабіць?! Няма мужа, год мінуў, як пачала вучобу ў вышэйшай школе. Бацькам не магу сказаць. І, пагаварыўшы з сястрою, якая паабяцала мне дапамагчы, я вырашыла нарадзіць дзіця. Сястра была замужняя і ў яе ўжо было сваё дзіця. Сказала, што і маё возьме на выхаванне, пакуль я скончу вучобу. Я гэта дзіця мусіла нарадзіць, бо больш за ўсё на свеце баялася, што ніколі больш не зацяжару, калі першую цяжарнасць перарву.

Усё сталася крыху інакш. Праз пару тыдняў пасля нашай размовы з сястрой, яна таксама сцвердзіла, што зацяжарыла. Усе мае надзеі на яе дапамогу лопнулі, як мыльны пузыр. Я нарадзіла дзіця. Бацькі мяне з хаты, вядома, не выкінулі, хаця заўважылі мой жывот самі. Я не мела адвагі ім сказаць пра свой стан. Быў страшны скандал, але калі нарадзілася цудоўная дзяўчынка, як дзве кроплі падобная на мяне, — усё мне даравалі. Заняліся ёю, як сваім дзіцём.

Так скончылася мая маладосць. Я ўмомант сталася дарослай. Вучобу мусіла кінуць. Як толькі падхавалася малая, я пайшла працаваць. Хлопцы перасталі цікавіць мяне. Як бы ўжо не існавалі. Я зразумела, што ніводзін з іх мне не дапаможа, не пакахае маю дачушку. Маё шчасце — гэта толькі яна. Кахаць яе, апекавацца ёю — іншых мараў у мяне не было.

Смехам-жартам дачка ўжо пайшла ў ліцэй. Ад часу, калі яна нарадзілася, я не спаткалася з ніводным мужчынам. Ї вось цяпер я сустрэла чалавека, да якога нешта мяне ў сэрцы закалола. Такі добры, так любіць маю дачку. А яна якая шчаслівая! Раней мне зусім не ўяўлялася, што можна так пакахаць кагосьці! Што рабіць, Сэрцайка?! Ён хоча ажаніцца са мною, але я баюся, ці будзе ён добрым бацькам, калі ўжо стане маім мужам.

**Хрысціна**

Хрысціна! Усё для людзей. Людзі ж і жэняцца, і разыходзяцца. Ты павінна скарыстаць з лёсу, які ўсміхнуўся табе. Але гарантыі табе даць не магу. Кожны шлюб — гэта рызыка. Кожны, аднак, яго бярэ! Хопіць ты ўжо ў сваім жыцці адпакутавала.

**СЭРЦАЙКА**